ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

№ 29 (1563) | Аўторак, 11 красавіка 1961 года | Цана 4 кап.

**Дзеячы літаратуры і мастацтва! Больш ярка адлюстроўвайце ў сваіх творах веліч і прыгажосць гераічных спраў савецкага чалавека! Змагайцеся за высокую ідэйнасць твораў і мастацкае майстэрства, за цесную, непарыўную сувязь літаратуры і мастацтва з жыццём народа, з сучаснасцю!**

# ЗАКЛІКІ ЦК КПСС да 1 Мая 1961 года

1. Няхай жыве 1 Мая — дзень міжнароднай салідарнасці працоўных, дзень адзінства і братэрства рабочых усіх краін!

2. Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

3. Вышэй сцяг пралетарскага інтэрнацыяналізму!

4. Няхай жыве мір і дружба паміж народамі!

5. Няхай жыве марксізм-ленінізм — вялікае рэвалюцыйнае вучэнне, пуцяводная зорка рабочага класа і працоўных усіх краін!

6. Палымянае прывітанне камуністам усіх краін! Няхай жыве непарушнае адзінства і згуртаванасць усіх братніх камуністычных і рабочых партый — баявога авангарда рабочага класа і ўсіх працоўных!

7. Няхай мацнее адзінства дзеянняў, баявая салідарнасць рабочага класа і працоўных усіх краін у барацьбе за мір, нацыянальную незалежнасць, дэмакратыю і сацыялізм!

8. Народы ўсіх краін! Змагайцеся за мір, за ўсеагульнае і поўнае раззбраенне! Рашуча выкрывайце імперыялістычных падпальшчыкаў вайны — злейшых ворагаў чалавецтва!

9. Народы свету! Дабівайцеся ліквідацыі «халоднай вайны» і змякчэння міжнароднай напружанасці! Змагайцеся за спыненне выпрабаванняў і забарону атамнай і вадароднай зброі!

10. Народы свету! Дабівайцеся неадкладнага прадастаўлення поўнай незалежнасці і свабоды ўсім каланіяльным краінам і народам! Далоў ганебную сістэму каланіяльнага рабства!

11. Народы ўсіх краін! Рашуча выступайце супраць пераўзбраення Заходняй Германіі ў галоўны ачаг ваеннай небяспекі ў Еўропе, супраць аснашчэння нямецкіх рэваншыстаў ракетна-ядзернай зброяй! Патрабуйце хутчэйшага заключэння мірнага дагавору з абедзвюма германскімі дзяржавамі і ператварэння Заходняга Берліна ў вольны горад!

12. Гарачае прывітанне мужным змагарам за свабоду і шчасце сваіх народаў, за мір і сацыялізм, якія пакутуюць у турмах капіталістычных краін! Свабоду ахвярам рэакцыі, вязням капіталу!

13. Няхай жыве сусветная сістэма сацыялізма — магутная садружнасць свабодных і суверэнных народаў!

Няхай жыве сацыялістычнае адзінства і салідарнасць народаў, якія ідуць па шляху сацыялізма і камунізма!

14. Братняе прывітанне працоўным Кітайскай Народнай Рэспублікі, якія будуюць сацыялізм! Няхай жыве вечная, непарушная дружба і супрацоўніцтва паміж вялікімі народамі СССР і Кітая!

15. Братняе прывітанне працоўным Народнай Рэспублікі Албаніі, якія будуюць сацыялізм! Няхай жыве вечная, непарушная дружба і супрацоўніцтва паміж савецкім і албанскім народамі!

16. Братняе прывітанне працоўным Народнай Рэспублікі Балгарыі, якія будуюць сацыялізм! Няхай жыве вечная, непарушная дружба і супрацоўніцтва паміж савецкім і балгарскім народамі!

17. Братняе прывітанне працоўным Венгерскай Народнай Рэспублікі, якія будуюць сацыялізм! Няхай жыве вечная, непарушная дружба і супрацоўніцтва паміж савецкім і венгерскім народамі!

18. Братняе прывітанне працоўным Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам, якія будуюць сацыялізм, змагаюцца за мірнае аб'яднанне сваёй краіны на дэмакратычных асновах! Няхай жыве вечная, непарушная дружба і супрацоўніцтва паміж савецкім і в'етнамскім народамі!

19. Няхай жыве Германская Дэмакратычная Рэспубліка — апора прагрэсіўных сіл усёй Германіі ў барацьбе за мір, за адзіную дэмакратычную і міралюбівую Германію! Братняе прывітанне працоўным ГДР, якія будуюць сацыялізм! Няхай мацнее дружба і супрацоўніцтва паміж савецкім і германскім народамі!

20. Братняе прывітанне працоўным Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі, якія будуюць сацыялізм, змагаюцца за мірнае аб'яднанне сваёй краіны на дэмакратычных асновах! Няхай жыве вечная, непарушная дружба і супрацоўніцтва паміж савецкім і карэйскім народамі!

21. Братняе прывітанне працоўным Мангольскай Народнай Рэспублікі, якія будуюць сацыялізм! Няхай жыве вечная, непарушная дружба і супрацоўніцтва паміж савецкім і мангольскім народамі!

22. Братняе прывітанне працоўным Польскай Народнай Рэспублікі, якія будуюць сацыялізм! Няхай жыве вечная, непарушная дружба і супрацоўніцтва паміж савецкім і польскім народамі!

23. Братняе прывітанне працоўным Румынскай Народнай Рэспублікі, якія будуюць сацыялізм! Няхай жыве вечная, непарушная дружба і супрацоўніцтва паміж савецкім і румынскім народамі!

24. Братняе прывітанне працоўным Чэхаславацкай Сацыялістычнай Рэспублікі, якія будуюць сацыялізм! Няхай жыве вечная, непарушная дружба і супрацоўніцтва паміж савецкім і чэхаславацкім народамі!

25. Братняе прывітанне працоўным Федэратыўнай Народнай Рэспублікі Югаславіі! Няхай развіваецца і мацнее дружба і супрацоўніцтва савецкага і югаслаўскага народаў у інтарэсах барацьбы за мір і сацыялізм!

26. Гарачае прывітанне вялікаму індыйскаму народу! Няхай развіваецца і мацнее дружба і супрацоўніцтва паміж народамі Савецкага Саюза і Індыі!

27. Гарачае прывітанне вялікаму інданезійскаму народу! Няхай развіваецца і мацнее дружба і супрацоўніцтва паміж народамі Савецкага Саюза і Інданезіі!

28. Гарачае прывітанне народам Бірмы, Цэйлона, Камбоджы, якія змагаюцца за мір і ўмацаванне нацыянальнай незалежнасці сваіх краін!

29. Гарачае прывітанне народу Лаоса, які мужна адстайвае свабоду і незалежнасць сваёй радзімы!

30. Гарачае прывітанне афганскаму народу! Няхай мацнеюць і развіваюцца сяброўскія, добрасуседскія адносіны паміж Савецкім Саюзам і Афганістанам!

31. Гарачае прывітанне народам арабскіх краін, якія змагаюцца супраць імперыялістычных падкопаў, за поўную ліквідацыю каланіялізму, за ўмацаванне незалежнасці і суверэнітэту сваіх краін, за развіццё нацыянальнай эканомікі!

32. Гарачае прывітанне алжырскаму народу, які самааддана адстайвае сваю свабоду і нацыянальную незалежнасць!

33. Гарачае прывітанне народам свабодных афрыканскіх дзяржаў, якія парвалі ланцугі каланіялізму і самааддана змагаюцца за ўмацаванне сваёй незалежнасці!

34. Гарачае прывітанне кангалезскаму народу, які змагаецца супраць узброенай агрэсіі бельгійскіх каланізатараў, за сваю нацыянальную незалежнасць і захаванне тэрытарыяльнай цэласнасці Рэспублікі Конга! Вон імперыялістычных драпежнікаў з Конга!

35. Гарачае прывітанне народам Лацінскай Амерыкі, якія змагаюцца супраць імперыялізму, за ўмацаванне незалежнасці і суверэнітэту сваіх краін, за мір і супрацоўніцтва паміж народамі!

36. Гарачае прывітанне гераічнаму народу Кубы, які будуе новае жыццё, самааддана адстайвае сваю свабоду і незалежнасць! Рукі прэч ад Кубы!

37. Няхай жыве дружба народаў Англіі, Злучаных Штатаў Амерыкі, Францыі і Савецкага Саюза, эканамічнае і культурнае супрацоўніцтва паміж імі ў інтарэсах трывалага міру ва ўсім свеце!

38. Гарачае прывітанне працоўным і ўсім прагрэсіўным сілам Федэратыўнай Рэспублікі Германіі, якія змагаюцца супраць мілітарызму і адраджэння фашызму! Няхай мацнее дружба паміж савецкім і германскім народамі!

39. Няхай развіваюцца і мацнеюць дружалюбныя адносіны паміж народамі Савецкага Саюза і Італіі!

40. Няхай жыве дружба і супрацоўніцтва паміж народамі Савецкага Саюза і Фінляндскай рэспублікі!

41. Няхай развіваюцца і мацнеюць дружалюбныя адносіны паміж савецкім народам і народамі Швецыі, Нарвегіі, Даніі, Ісландыі!

42. Няхай жыве дружба і супрацоўніцтва паміж народамі Савецкага Саюза і Аўстрыі!

43. Гарачае прывітанне японскаму народу, які змагаецца супраць амерыканскіх ваенных баз на сваёй тэрыторыі, за незалежнае і дэмакратычнае развіццё краіны, за мір і дружбу з усімі суседнімі дзяржавамі!

44. Няхай жыве ленінская міралюбівая знешняя палітыка Савецкага Саюза—палітыка мірнага суіснавання дзяржаў з розным грамадскім ладам, умацавання міру і бяспекі народаў, павагі іх свабоды і незалежнасці, развіцця шырокіх эканамічных і культурных сувязей!

45. Няхай жывуць авеяныя славай перамог доблесныя Савецкія Узброеныя Сілы, якія пільна стаяць на варце міру, дзяржаўных інтарэсаў і бяспекі нашай Радзімы!

46. Няхай жыве непарушны саюз рабочага класа і калгаснага сялянства — трывалая і непахісная аснова савецкага ладу!

47. Няхай жыве і мацнее непарушная братняя дружба народаў СССР — крыніца сілы, магутнасці і працвітання нашай многанацыянальнай сацыялістычнай дзяржавы!

48. Працоўныя Савецкага Саюза! Сустрэнем XXII з'езд Камуністычнай партыі новымі поспехамі ў камуністычным будаўніцтве! Вышэй сцяг сацыялістычнага спаборніцтва ў гонар XXII з'езда КПСС!

49. Працоўныя горада і вёскі! Упорнай работай за найкарацейшы гістарычны тэрмін даб'ёмся перамогі ў мірным эканамічным спаборніцтве з капіталізмам! Дагонім і пераўзыйдзем Злучаныя Штаты Амерыкі па вытворчасці прадукцыі на душу насельніцтва!

50. Рабочыя, калгаснікі, савецкая інтэлігенцыя! Выкананне сацыялістычных абавязацельстваў — справа гонару калектыву кожнага прадпрыемства і будоўлі, кожнага калгаса і саўгаса! Датэрмінова выканаем план 1961 года — трэцяга года сямігодкі!

51. Слава калектывам і ўдарнікам камуністычнай працы, перадавікам і наватарам вытворчасці, якія ідуць у першых радах будаўнікоў камунізма! Вопыт лепшых зробім здабыткам усіх працоўных!

52. Працоўныя Савецкага Саюза! Усямерна ўмацоўвайце сацыялістычную ўласнасць — аснову далейшага росту магутнасці нашай краіны і дабрабыту народа! Змагайцеся за няўхільнае ажыццяўленне прынцыпу сацыялізма: «Хто не працуе, той не есць!».

53. Работнікі прамысловасці, будаўніцтва і транспарту! Паўней выкарыстоўвайце рэзервы павышэння прадукцыйнасці працы! Смялей укараняйце дасягненні навукі і тэхнікі ў вытворчасць!

54. Рабочыя і работніцы, інжынеры, тэхнікі і майстры! Умацоўвайце сацыялістычную дысцыпліну працы! Павышайце якасць і зніжайце сабекошт прадукцыі!

55. Работнікі цяжкай індустрыі! Змагайцеся за паляпшэнне работы цяжкай прамысловасці — асновы далейшага ўздыму ўсёй народнай гаспадаркі, павышэння дабрабыту народа і ўмацавання абароннай магутнасці нашай Радзімы!

56. Савецкія металургі! Павышайце тэмпы асваення новых рудных месцанараджэнняў! Больш руды, чыгуну, сталі, пракату, труб, каляровых і рэдкіх металаў народнай гаспадарцы!

57. Савецкія энергетыкі, будаўнікі і мантажнікі электрастанцый і электрасетак! Хутчэй уводзьце ў дзеянне і асвойвайце новыя энергетычныя магутнасці, зніжайце кошт будаўніцтва і эксплуатацыі энергасістэм! Дадзім краіне больш электраэнергіі!

58. Работнікі машынабудавання і прыборабудавання! Хутчэй асвойвайце вытворчасць навейшых высокапрадукцыйных і эканамічных машын і прыбораў, сродкаў комплекснай механізацыі і аўтаматызацыі! Змагайцеся за хутчэйшае тэхнічнае пераўзбраенне ўсіх галін народнай гаспадаркі!

59. Работнікі нафтавай і газавай прамысловасці! Вышэй тэмпы геолагаразведачных і буравых работ, асваення новых месцанараджэнняў! Нарошчвайце магутнасці нафтаперапрацоўчых заводаў, павышайце якасць нафтапрадуктаў! Дадзім краіне больш нафты і газу!

60. Работнікі вугальнай прамысловасці! Шырэй укараняйце комплексную механізацыю і эфектыўныя спосабы здабычы вугалю! Зніжайце сабекошт і паляпшайце якасць вугалю!

61. Работнікі хімічнай прамысловасці! Хутчэй уводзьце ў строй і асвойвайце новыя магутнасці! Больш дабротных і дзяшовых тавараў з хімічнай сыравіны! Больш мінеральных угнаенняў для сельскай гаспадаркі!

62. Савецкія будаўнікі! Умацоўвайце індустрыяльную базу будаўніцтва! Будуйце эканамічныя і дабротныя, зручныя і прыгожыя будынкі і ўзвядзенні! Вышэй тэмпы і якасць будаўніцтва новых прадпрыемстваў, жылых дамоў, школ, бальніц і дзіцячых устаноў!

63. Работнікі прамысловасці будаўнічых матэрыялаў! Усямерна павялічвайце вытворчасць цэменту, новых эфектыўных будаўнічых матэрыялаў, вырабаў і зборных канструкцый!

64. Работнікі лясной, дрэваапрацоўчай і папяровай прамысловасці! Дадзім краіне больш драўніны, мэблі, цэлюлозы і паперы высокай якасці!

65. Работнікі лёгкай прамысловасці! Павялічвайце вытворчасць, расшырайце асартымент тавараў! Больш трывалых і прыгожых тканін, адзення, абутку, прадметаў хатняга ўжытку для насельніцтва!

66. Работнікі харчовай прамысловасці! Усямерна павялічвайце вытворчасць, павышайце якасць і расшырайце асартымент прадуктаў харчавання!

67. Работнікі рыбнай прамысловасці! Павялічвайце ўлоў рыбы ў адкрытых морах, акіянах і ва ўнутраных вадаёмах! Паляпшайце якасць рыбных прадуктаў!

68. Работнікі савецкага транспарту! Удасканальвайце і аснашчайце сучаснымі тэхнічнымі сродкамі чыгуначны марскі, рачны, аўтамабільны і паветраны транспарт! Скарачайце тэрміны дастаўкі грузаў! Паляпшайце абслугоўванне пасажыраў!

69. Работнікі сувязі! Развівайце і ўдасканальвайце сродкі сувязі! Дабівайцеся бездакорнай работы пошты, тэлеграфа, тэлефона, радыё, тэлебачання! Паляпшайце абслугоўванне насельніцтва!

70. Працаўнікі сельскай гаспадаркі! Далейшы няўхільны ўздым сельскай гаспадаркі — важнейшая ўмова пабудовы камунізма. Змагайцеся за выкананне рашэнняў студзеньскага Пленума ЦК КПСС!

71. Працаўнікі калгасаў і саўгасаў! Дадзім Радзіме больш збожжа, мяса, малака, яек, воўны, бавоўны, ільну, цукровых буракоў, бульбы, гародніны, фруктаў, чаю і іншых прадуктаў! Поўнасцю задаволім попыт насельніцтва на прадукты сельскай гаспадаркі!

72. Калгаснікі і калгасніцы! Усямерна развівайце грамадскую гаспадарку, павялічвайце непадзельныя фонды — аснову грамадскага багацця!

73. Калгаснікі і калгасніцы, работнікі саўгасаў і спецыялісты сельскай гаспадаркі! Павышайце культуру земляробства! Смялей укараняйце ва ўсіх калгасах і саўгасах дасягненні навукі, тэхнікі і перадавога вопыту!

Раўняйцеся на наватараў — нашы маякі, якія ўказваюць шлях да ўзорнага вядзення сельскай гаспадаркі!

74. Калгаснікі і калгасніцы, работнікі саўгасаў! Усямерна развівайце грамадскую жывёлагадоўлю, павышайце прадуктыўнасць жывёлы! Стварайце трывалую кармавую базу, змагайцеся за высокія ўраджаі кукурузы, бабовых, цукровых буракоў!

75. Працаўнікі сельскай гаспадаркі! Шырэй укараняйце комплексную механізацыю ў земляробстве і жывёлагадоўлі! Авалодвайце новай тэхнікай!

(Заканчэнне на 2-й стар.).

# ІНІЦЫЯТЫВА, ТВОРЧЫ НЕСПАКОЙ!

## ІДЗЕ ГРАМАДСКІ АГЛЯД РАБОТЫ КУЛЬТУРНА-АСВЕТНЫХ УСТАНОЎ

Многа новых цудоўных спраў нараджаецца ў нашай вялікай краіне, і самыя лепшыя з іх прысвечаны савецкімі людзьмі XXII з'езду Камуністычнай партыі. І ў цэху прадпрыемства і на калгасным полі, і ў лабараторыі вучонага, і ў рэпетыцыйнай зале тэатра, і ў майстэрні мастака — усюды ідуць настойлівыя творчыя пошукі новага, рыхтуюцца падарункі з'езду будаўнікоў камунізма.

Ну, а работнікі культурна-асветных устаноў? Чым яны заняты ў дні ўсенароднага спаборніцтва ў гонар XXII з'езду КПСС? Можна нагадаць шмат прыкладаў, як самааддана працуюць на культурным фронце рэспублікі гэтыя актыўныя памочнікі партыі. Знаходзячыся на перадавых рубяжах сямігодкі, работнікі культуры сваім пачэсным абавязкам лічаць шырокую і дзейсную прапаганду рашэнняў студзеньскага Пленума ЦК КПСС, дапамогу працаўнікам калгаснай вёскі.

У далёкай палескай вёсцы жыве Вольга Парамонаўна Лагодзіч. Яна загадвае клубам у калгасе «Шлях да камунізма» Іванаўскага раёна. Паглядзіце, якім творчым, актыўным жыццём жывуць тут калгаснікі. Яны ўзмоцнена рыхтуюцца да веснавых палявых работ. Пройдзе яшчэ некалькі дзён, — і ў поле выйдуць трактары, у зямлю ўпадуць першыя зярняты. Колькі цяпер спраў у Вольгі Парамонаўны! Толькі паспявай рабіць усё. Але ёсць у яе добрыя і надзейныя памочнікі — мясцовыя актывісты: настаўнікі, спецыялісты сельскай гаспадаркі, камсамольцы і моладзь. Агульнымі намаганнямі яны выпускаюць насценную газету і «Баявыя лісткі» на фермах, праводзяць гутаркі-лекцыі, вечары ўшанавання перадавікоў, наладжваюць канцэрты агітбрыгады.

У рэспубліцы нямала ўстаноў культуры, у якіх вечарамі заўсёды мнагалюдна. Вось клуб калгаса «Новае жыццё» Карэліцкага раёна. Неспакойны характар у загадчыка клуба Георгія Рогача. Ён сам заўсёды ў пошуках новага, і сваіх добраахвотных памочнікаў—актывістаў—вучыць не супакойвацца на дасягнутым.

Партыя заклікае работнікаў клубных устаноў і бібліятэк не захапляцца культурніцтвам, а будаваць сваю работу ў цеснай сувязі з жыццём, з патрэбамі народа. І вопыт, практыка лепшых работнікаў культуры рэспублікі яшчэ раз пераконваюць, што іх поспех цалкам залежыць ад таго, наколькі чула і ўважліва ставяцца яны да запатрабаванняў жыцця. Калі ўся дзейнасць нашых культасветустаноў будзе адпавядаць задачам, якія ставіць перад народам партыя, тады клуб і біблятэка ніколі не будуць пуставаць, яны стануць цэнтрамі, якія распаўсюджваюць і перадавы вопыт, і веды, і культуру.

На вялікі жаль, мы яшчэ не можам сёння сказаць, што ўсе ўстановы культуры рэспублікі працуюць як след, апраўдваюць спадзяванні свайго народа. Ну што гэта за клуб ці бібліятэка, калі ў іх памяшканні брудна, няўтульна, калі там холадна. Якім цэнтрам культуры, якім штабам перадавога вопыту будуць яны, знаходзячыся ў такіх умовах? Як жа могуць мірыцца з гэтым моладзь, камсамольцы, партыйная арганізацыя, праўленне калгаса і сельсавет?

Часам у рэдакцыю паступаюць скаргі ад моладзі на тое, што клуб не працуе, што ён не адрамантаваны. Мы лічым, што ў такіх выпадках трэба не скардзіцца, а дзейнічаць. Каму ж, як не моладзі, трэба закасаць рукавы і навесці парадак у сваёй установе культуры. Не чакаць, пакуль нехта зробіць, а самім прыкласці рукі.

Цудоўную ініцыятыву праявілі работнікі культуры, камсамольцы і моладзь Рагачоўскага раёна. Ужо больш года як большасць клубаў і бібліятэк раёна працуюць на самаабслугоўванні. І паглядзіце, як хораша, утульна і чыста стала там, дзе моладзь сама сочыць за парадкам.

Мы ідзём насустрач вялікай і радаснай падзеі — XXII з'езду КПСС. Нам трэба зрабіць кожны клуб і Дом культуры, кожную бібліятэку і хату-чытальню баявымі памочнікамі мясцовых партыйных арганізацый, сапраўднымі асяродкамі культуры і перадавога вопыту.

У першамайскіх Закліках ЦК КПСС падкрэсліваецца, што работнікі культурна-асветных устаноў павінны быць нястомнымі прапагандыстамі і праваднікамі ў масы ўсёперамагаючых камуністычных ідэй, перадавога вопыту, дасягненняў навукі і тэхнікі, духоўных багаццяў, накопленых чалавецтвам.

Каб палепшыць работу нашых устаноў культуры, Міністэрства культуры БССР у гонар XXII з'езду КПСС праводзіць грамадскі агляд сельскіх і калгасных клубных устаноў, агітацыйна-мастацкіх брыгад, конкурс маладых выканаўцаў — удзельнікаў мастацкай самадзейнасці: вакалістаў, інструменталістаў, чытальнікаў.

Грамадскі агляд сельскіх і калгасных клубных устаноў пачаўся 1 красавіка і будзе працягвацца да 31 снежня 1961 года. Агляд мае на мэце павысіць узровень работы клубаў і дамоў культуры па камуністычнаму выхаванню працоўных, палепшыць іх культурнае абслугоўванне, узмацніць прапаганду поспехаў савецкага народа ў камуністычным будаўніцтве. Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на тое, каб клубныя ўстановы прымалі самы актыўны ўдзел у падрыхтоўцы дастойнай сустрэчы XXII з'езду КПСС, каб яны дапамагалі працоўным горада і вёскі выконваць сацыялістычныя абавязацельствы ў гонар з'езду. Вядома, што пераможцам будзе лічыцца тая ўстанова культуры, у дзейнасці якой будзе прымаць шырокі ўдзел грамадскасць і ў першую чаргу інтэлігенцыя, камсамольцы, моладзь, перадавыя людзі вытворчасці.

Міністэрства культуры распрацавала ўмовы агляду, якія прадугледжваюць, каб кожны клуб, бібліятэка мелі змястоўную і надзённую нагляднyю агітацыю, якая б шырока прапагандавала задачы сямігодкі, рашэнні студзеньскага Пленума. У кожнай клубнай установе трэба, каб было прачытана не менш дзвюх—трох лекцый у месяц на палітычныя, сельскагаспадарчыя, навукова-атэістычныя тэмы, а таксама па пытаннях перадавога вопыту; было праведзена не менш аднаго масавага тэматычнага вечара ў месяц. Кожны сельскі, калгасны Дом культуры і клуб абавязаны мець не менш двух гурткоў: аграэаатэхнічны, эканамічны, перадавога вопыту жывёлаводаў, механізатараў і кукурузаводаў (на выбар), а таксама кабінет або куток перадавога вопыту.

Трэба больш аддаваць увагі развіццю мастацкай самадзейнасці і дамагацца, каб у кожным сельскім і калгасным Доме культуры і клубе было не менш трох гурткоў (харавы, драматычны, танцавальны або музычны) і агітацыйна-мастацкая брыгада. Удзельнікі гурткоў абавязаны наладжваць у месяц не менш двух канцэртаў.

Ставіцца задача значна палепшыць работу клубных бібліятэк, каб іх паслугамі карысталася кожная калгасная сям'я і каб кожны чытач за год прачытаў не менш 12—14 кніг.

У аглядзе ўдзельнічаюць усе агітацыйна-мастацкія брыгады раённых і гарадскіх дамоў культуры, сельскіх і калгасных клубаў. Кожная брыгада абавязана мець не менш 12—15 чалавек і выступаць з канцэртамі на прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах не менш двух разоў у месяц. За час агляду агітбрыгада абавязана падрыхтаваць дзве новыя канцэртныя праграмы. Шмат увагі неабходна аддаваць рэпертуару, каб ён быў баявы і надзённы, адлюстроўваў жыццё таго калгаса або прадпрыемства, дзе выступае агітбрыгада.

Створаны рэспубліканскія камісіі па правядзенню агляду сельскіх і калгасных клубных устаноў і агітбрыгад, а таксама конкурсу маладых выканаўцаў — удзельнікаў мастацкай самадзейнасці. Цяпер у абласцях, раёнах і сельскіх Саветах ствараюцца свае камісіі і журы, абавязак якіх — дапамагаць работнікам культуры ў правядзенні гэтых аглядаў.

Агляды сельскіх і калгасных клубных устаноў, агітбрыгад і конкурс маладых выканаўцаў, безумоўна, палепшаць культурна-масавую работу на вёсцы, выявяць шмат новых талентаў, якімі так багата наша зямля. Трэба толькі ўмела арганізаваць работу кожнай клубнай установы, кожнага самадзейнага калектыву. Вядома, поспех правядзення гэтых аглядаў і конкурсу маладых талентаў у многім будзе залежаць ад таго, як арганізуюць гэтую важную справу органы культуры — абласныя ўпраўленні і раённыя аддзелы культуры, як будуць дапамагаць сельскім установам культуры і агітбрыгадам абласныя і рэспубліканскія дамы народнай творчасці, ад удзелу ў іх нашай грамадскасці — партыйных і савецкіх арганізацый, камсамола і моладзі.

Па-баявому правесці гэтыя агляды і конкурс — справа гонару работнікаў культуры рэспублікі.

# ЗАКЛІКІ ЦК КПСС да 1 Мая 1961 года

(Заканчэнне. Пачатак на 1 стар.).

76. Работнікі саўгасаў!Ператворым усе саўгасы краіны ва ўзорныя, высокатаварныя, рэнтабельныя прадпрыемствы!

77. Працаўнікі цалінных зямель! Дабівайцеся высокіх і ўстойлівых ураджаяў збожжа! Усямерна развівайце грамадскую жывёлагадоўлю і птушкагадоўлю! Лепш выкарыстоўвайце тэхніку!

78. Работнікі савецкага гандлю і грамадскага харчавання! Змагайцеся за высокую культуру абслугоўвання насельніцтва, лепш вывучайце і паўней задавальняйце ўзрастаючыя патрэбнасці працоўных!

79. Работнікі савецкіх устаноў! Дабівайцеся зладжанай работы ўсіх звенняў савецкага апарату! Рашуча выкараняйце бюракратызм і цяганіну! Чула і клапатліва адносцеся да патрэб працоўных!

80. Работнікі навукі і вышэйшых навучальных устаноў! Змагайцеся за далейшы росквіт навукі, за тэхнічны прагрэс! Дабівайцеся хутчэйшага ўкаранення ў вытворчасць новых адкрыццяў і даследаванняў! Рыхтуйце спецыялістаў, вартых эпохі камунізма!

Слава перадавой савецкай навуцы!

81. Слава савецкім вучоным, канструктарам, інжынерам, тэхнікам і рабочым — пакарыцелям космасу!

82. Дзеячы літаратуры і мастацтва! Больш ярка адлюстроўвайце ў сваіх творах веліч і прыгажосць гераічных спраў савецкага чалавека! Змагайцеся за высокую ідэйнасць твораў і мастацкае майстэрства, за цесную, непарыўную сувязь літаратуры і мастацтва з жыццём народа, з сучаснасцю!

83. Работнікі друку, радыё і тэлебачання, выдавецтваў і культурна-асветных устаноў! Будзьце нястомнымі прапагандыстамі і праваднікамі ў масы ўсёперамагаючых камуністычных ідэй, перадавога вопыту, дасягненняў навукі і тэхнікі, духоўных багаццяў, накопленых чалавецтвам!

84. Работнікі народнай асветы! Павышайце якасць навучання дзяцей, змагайцеся за цесную сувязь школы з жыццём, з вытворчасцю! Выхоўвайце падрастаючае пакаленне ў духу калектывізму, любві да працы, адданасці Радзіме, справе камунізма!

85. Медыцынскія работнікі! Паляпшайце і развівайце народную ахову здароўя, павышайце культуру ў рабоце лячэбных і санітарных устаноў! Укараняйце ў практыку навейшыя дасягненні медыцынскай навукі!

86. Няхай жывуць Саветы дэпутатаў працоўных — сапраўды народныя органы ўлады ў нашай краіне!

87. Савецкія прафсаюзы! Усямерна развівайце творчую ініцыятыву і актыўнасць рабочага класа і інтэлігенцыі ў барацьбе за ажыццяўленне сямігодкі! Нястомна клапаціцеся аб далейшым уздыме дабрабыту і культурнага ўзроўню рабочых і служачых!

Няхай жывуць савецкія прафсаюзы — школа камунізма!

88. Няхай жывуць савецкія жанчыны — актыўныя будаўнікі камуністычнага грамадства!

89. Няхай жыве Ленінскі камсамол — верны памочнік і рэзерв Камуністычнай партыі, перадавы атрад маладых будаўнікоў камунізма!

90. Юнакі і дзяўчаты! Вучыцеся жыць і працаваць па-камуністычнаму! Выпрацоўвайце ў сабе працавітасць і дысцыпліну, высокія маральныя якасці! Будзьце вернымі прадаўжальнікамі рэвалюцыйных традыцый, свядомымі будаўнікамі камунізма!

Няхай жыве слаўная савецкая моладзь!

91. Піянеры і школьнікі! Упорна авалодвайце ведамі, любіце і паважайце працу! Рыхтуйцеся стаць актыўнымі барацьбітамі за справу Леніна, за камунізм!

92. Камуністы і камсамольцы! Будзьце ў авангардзе ўсенароднай барацьбы за дастойную сустрэчу XXII з'езда партыі, за пабудову камунізма ў СССР!

93. Няхай жыве вялікі савецкі народ — будаўнік камунізма!

94. Няхай жыве і мацнее непарушнае яднанне партыі і народа — крыніца сілы і непераможнасці сацыялістычнага ладу, залог новых поспехаў у будаўніцтве камунізма!

95. Няхай жыве Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік — цвярдыня дружбы народаў нашай краіны, несакрушальная апора міру, дэмакратыі і сацыялізма!

96. Няхай жыве наш родны Савецкі ўрад!

97. Няхай жыве створаная Леніным слаўная Камуністычная партыя Савецкага Саюза — вялікая натхняючая і арганізуючая сіла савецкага народа ў барацьбе за пабудову камунізма!

98. Пад сцягам марксізма-ленінізма, пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі — наперад, да перамогі камунізма!

99. Няхай жыве камунізм — светлая будучыня ўсяго чалавецтва!

*Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Савецкага Саюза*

ЗА РАБОЧЫМ СТАЛОМ ПІСЬМЕННІКА

## Задум хоць адбаўляй

— Над чым вы будзеце працаваць у гэтым годзе? — з такім пытаннем звярнуўся наш карэспандэнт да байкапісца Уладзіміра Корбана.

— Задум дужа многа,—сказаў пісьменнік, — шмат аб чым ёсць пісаць. А як я спраўлюся з гэтымі задумамі — пакажа час. Жыццё ў нас зараз такое бурнае, кожны дзень прыносіць столькі новага, што кожны крок савецкага чалавека — гэта аповесць, раман, гераічная паэма. Нават не выязджаючы з горада, кожную хвіліну адчуваеш вялікі поступ нашага жыцця. Вунь той дом яшчэ нядаўна быў у рыштаваннях, а зараз ягоныя вокны зіхацяць агнямі, там пасяліліся шчаслівыя людзі. А будаўнічыя краны, якія завіхаліся ля гэтага дома, не пайшлі ў адпачынак, яны адступілі на ўскраіну горада і зноў завіхаюцца ля іншых дамоў, у якіх таксама неўзабаве засвецяцца агнямі вокны, зазвініць дзіцячы смех.

Нядаўна я гасцяваў у землякоў-аршанцаў. Быў на заводзе швейных машын, наведаў калгас. I ўсюды дзівіўся размаху стваральнай працы. Нельга пра гэта не пісаць. I хоць цяжка расказваць пра свае планы, я ўсё ж скажу, —пачаў аповесць. Якая гэта будзе аповесць і пра што, пакуль няхай застанецца ў сакрэце, — а раптам атрымаецца не так, як задумана?

— А як жа з сатырай? Здаецца, гэта ж Ваш асноўны жанр?

— Так, сатырычнага плана я мяняць не буду. I надалей буду выкрываць усякіх жулікаў і прайдзісветаў. «Героі» для сатырычных твораў яшчэ ёсць. I не толькі жулікі, абібокі, лайдакі, п'яніцы ці прыстасаванцы, якія ўхітраюцца есці, не працуючы. Ёсць «героі» і іншага калібру. Сумленныя людзі будуюць гарады, уздымаюць сельскую гаспадарку, мацуюць наш дабрабыт, а іншы пухір сядзіць сабе на даволі высокай пасадзе, пасапвае ў нос і клапоціцца толькі пра свой аўтарытэт, імкнецца набыць славу за чужы кошт. Такі «сапун» здольны прыпісаць сабе дасягненні любога перадавіка. Шырокай спінай свайго часамі дутага аўтарытэту ён заслоніць любога героя і наватара.



Хіба ж гэта не мой «герой»? Мой! Я яго нікому не аддам.

У гэтым годзе ў Беларускім дзяржаўным выдавецтве выходзіць мая кніжка «Дзе гэта вуліца?» Яна, уласна кажучы, з'яўляецца сатырычнай справаздачай да майго пяцідзесяцігоддзя. Сюды я сабраў усе лепшыя байкі і вершы. Напісаў і здаў у выдавецтва невялікую кніжку для дзяцей малодшага ўзросту. Кніжка называецца: «Тут жывёлы і звяры—і сябры і не сябры». Гэтай кніжкай я задумаў пазнаёміць з прыродай сваіх маленькіх слухачоў. Іменна слухачоў, а не чытачоў, бо яны самі яшчэ чытаць не ўмеюць. Пра кожнага звера ці жывёліну ў жартаўлівай форме я напісаў па чатыры вершаваныя радкі. Напрыклад, пра авечку:

Дужа горача авечцы,
Асвяжыцца б ёй у рэчцы,
Пакупацца, паныраць, —
Кажуха не можа зняць.

Такіх кавалачкаў будзе ў кніжцы семдзесят. Але толькі напісаць пра звяроў для маленькіх дзяцей недастаткова, трэба ім яшчэ і паказаць гэтых звяроў. Таму я запрасіў на дапамогу мастака Валянціна Ціхановіча.

Ну, і, вядома, увесь час буду пісаць байкі і сатырычныя вершы. У першую чаргу хочацца напісаць нізку баек пад агульнай назвай: «Не працуюць, а ядуць». Гэтую нізку я пачаў ужо і, відаць, буду працаваць над ёю ўвесь год.

## Сэрца мільёнаў падслухаць біццё

*Наш сучаснік у жыцці і мастацтве*

А. БАГАТЫРОЎ,
заслужаны дзеяч мастацтва БССР, прафесар.

Сучаснасць прад'яўляе нам, кампазітарам, велізарныя патрабаванні. Імі мы павінны вымяраць цяпер усю нашу творчую работу.

Якімі шляхамі павінна развівацца наша музыка, як у ёй павінна адлюстроўвацца жыццё народа?

Адметная асаблівасць савецкай музыкі—сучасная рэвалюцыйная тэма. Савецкая музыка зацвердзілася на пазіцыях новай эстэтыкі — эстэтыкі сацыялістычнага рэалізму. У ёй атрымалі шырокае распаўсюджанне многія жанры: балет, араторыя, кантата, музыка для дзяцей і моладзі, музыка для народных і духавых аркестраў, лёгкая інструментальная і вакальная музыка, музыка для драматычнага тэатра. У аснове развіцця гэтых жанраў — новая, сучасная тэматыка.

Новыя рысы раскрыліся і ў творчасці беларускіх кампазітараў, якія стварылі ў 30-х гадах першыя беларускія оперы і балет, сімфоніі, камерныя і песенныя творы. У час Вялікай Айчыннай вайны беларускія кампазітары прайшлі са сваім народам праз суровыя выпрабаванні. Аб барацьбе народа супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў напісан шэраг твораў. Тут можна назваць оперу «Дзяўчына з Палесся» Я. Цікоцкага, песні і хоры кампазітараў М. Аладава, Р. Пукста, С. Палонскага, В. Яфімава, М. Чуркіна і інш.

Пасля вайны ў рэспубліцы найбольш актуальнай становіцца тэма аднаўлення і далейшага развіцця народнай гаспадаркі, новага ўздыму культуры. Нашы кампазітары горача ўзяліся за рэалізацыю яе.

У пасляваенны час у нас з'явіліся новыя імёны—Ул. Алоўнікаў, які праявіў свой талент у песеннай творчасці, Д. Камінскі, які добра зарэкамендаваў сябе ў жанры інструментальнага канцэрта і камернай музыкі. За апошнія сем год сям'я беларускіх кампазітараў папоўнілася значнай групай маладых таленавітых выхаванцаў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, здольных вырашаць сур'ёзныя творчыя задачы. Гэта кампазітары Ю. Семяняка, Э. Тырманд, Я. Глебаў, Г. Вагнер, Ул. Чараднічэнка, Д. Смольскі, І. Кузняцоў.

Перад усімі намі праблема сучаснасці ў музыцы паўстае як першачарговая, самая важная праблема. Яе неабходна вырашаць, зыходзячы з патрабаванняў нашага народа, нашай партыі.

Мы пакуль што яшчэ не прыйшлі да адзінага погляду на паняцце сучаснасці. Адны гавораць, што сучаснае тое, што адлюстроўвае сучаснае жыццё; другія бяруць у разлік толькі сродкі выразнасці. Мне здаецца, і тое і другое не зусім правільна. У мастацтве заўсёды было і будзе асноўным адлюстраванне ўнутранага свету чалавека.

У апошні час з'явіўся новы тэрмін —«рэмаркізм». Азначае ён сацыяльную бесперспектыўнасць, адзіноцтва, закінутасць—рысы, уласцівыя творчасці таленавітага песняра «страчанага пакалення» Рэмарка. Тым не менш, Рэмарк адзін з найбольш любімых у нас пісьменнікаў Захаду. Прычына—насычанасць і багацце ўнутранага жыцця яго герояў, глыбіня і тонкасць разважанняў пра жыццё, амаль заўсёды вельмі лаканічных, надзвычай прывабных для чытачоў. Часта гэтыя разважанні аднабаковыя і не адпавядаюць нашаму светаадчуванню, але вабіць сама манера мыслення рэмаркаўскіх герояў, іх успрыняццё рэчаіснасці. Герой Рэмарка, падобна герою Хемінгуэя, адзінокі, ён ні на хвіліну не можа забыць пра сябе. Гэтая індывідуальнасць не можа пераадолець сябе, але яна яркая. I чым яна ярчэйшая ў такіх герояў, тым больш яны адзінокія.

У мастацтве ж сацыялістычнага рэалізму наадварот: чым ярчэйшая індывідуальнасць чалавека, тым шчыльнейшая яго сувязь з грамадствам. Сцвярджаючы перамогу індывідуальнасці, якая належыць класу, Маякоўскі пісаў:

Я ж с небес поэзии
бросаюсь в коммунизм,
потому что нет мне без него
любви.

Услед за Маякоўскім гэтыя словы могуць паўтарыць героі многіх твораў нашага мастацтва, у тым ліку лепшых беларускіх опер, кантат, песень, сімфоній.

У нашых музыкантаў часта ўзнікаюць спрэчкі, якія сімфанічныя творы больш патрэбны—праграмныя ці не праграмныя, творы якія ляжаць у рэчышчы традыцый рускіх класікаў ці пераймаюць інтанацыі сучасных савецкіх кампазітараў С. Пракоф'ева і Д. Шастаковіча. Я называю гэтых кампазітараў не выпадкова, бо спецыфічныя мелодыі і гармоніі, створаныя двума буйнейшымі мастакамі сучаснасці, — рэальная з'ява.

У сувязі з гэтым трэба сказаць пра дзве істотныя ў музыцы тэндэнцыі. Адна з іх — пераважная ўвага да асабістых перажыванняў чалавека, узятых так сказаць па-за грамадзянскім пачуццём.

Мастак, які разглядае эмоцыі пад мікраскопам, можа быць вельмі праўдзівы ў асобных дэталях і зусім няпраўдзівы ўвогуле, бо мікраскоп раўнадушна павялічвае і істотнае і дробнае. Перспектыва бачання жыцця дасягаецца шырынёй поглядаў. Каб правільна ўбачыць адзін прадмет, трэба ўбачыць многа прадметаў і умець іх супаставіць па кантрасту і падабенству. Асабліва па кантрасту. Уменне мысліць смелымі і нечаканымі асацыяцыямі — важная якасць мастака. Пільны разгляд пад мікраскопам душэўных якасцей чалавека і нараджае тыя сімфанічныя канцэпцыі, якія мы называем уяўна філасофскімі, і зыходзяць яны ад фармальнага пераймання Шастаковіча.

Чаму ж Шастаковічу ўдаюцца гэтыя новыя рысы чалавека, а яго эпігонам — не? Таму, што Шастаковіч у сваіх лепшых творах не адрывае героя ад самога жыцця, дыханне якога мы заўсёды адчуваем у яго музыцы. Уяўна філасофскія канцэпцыі яго пераймальнікаў — гэта, па сутнасці, кола, якое штучна замыкае чалавека ў сабе самім. Іншы раз гавораць: «Дапусцім, аўтар абмежаваў сваю задачу адлюстраваннем унутранага свету чалавека. Але самую гэтую задачу ён выканаў добра, значыць, ён усё ж стварыў значны твор». У тым і справа, што перажыванні моцнага чалавека амаль ніколі не бываюць замкнёны ў сабе. Сіла чалавека вымяраецца не толькі сілай самых перажыванняў, але і сілай іх сувязі з душэўным светам іншых людзей. Вядома, ніякая ісціна ў мастацтве не церпіць догмы, ёсць і могуць быць асобныя задачы, асобныя праграмы, асобныя задумы. Але ў той жа час ёсць і абавязковыя для мастака патрабаванні часу: праз раскрыццё яркай чалавечай індывідуальнасці сцвердзіць жыццёвасць і прыгажосць ідэй эпохі. Як бы дасканала ні была выпісана карціна душэўнага стану чалавека—гэта амаль заўсёды будзе толькі фрагмент карціны, а карціна ўвогуле—адлюстраванне чалавека ва ўсім багацці і разнастайнасці яго сувязей з жыццём.

Другая тэндэнцыя ў нашай музыцы проста процілеглага характару. Прыхільнікі яе часта або не ўмеюць паказаць, што звязана з росквітам асобы, з напружанай працай дасціпнага інтэлекту, з раскрыццём свету тонкіх і моцных эмоцый, або пазбягаюць такога паказу. Героі падобных твораў — толькі хадзячыя ідэі ў іх чыстым выглядзе (прыгадаем хоць бы вобразы некаторых партыйных кіраўнікоў і партызанскіх важакоў у нашых операх і балетах). Каб выказаць ідэю ў чыстым выглядзе, не трэба звяртацца да мастацтва; можна напісаць газетны артыкул ці філасофскі трактат. Іменна канкрэтна-вобразнае выяўленне ідэі—сутнасць мастацтва. У перыяд зараджэння прагрэсіўных грамадскіх ідэй нават дэкларатыўнае іх сцвярджэнне ў мастацтве правамернае, хоць і ўяўляе сабою пэўнае адступленне ад строгіх законаў сапраўднага мастацтва. Плакатная дэкларатыўнасць у пэўныя эпохі, магчыма, непазбежная. Але для сучаснага чытача, гледача, слухача—чалавека новага грамадства, высокаразвітага ў ідэйных адносінах, чалавека адукаванага, душэўна багатага і рознабаковага, падобныя дэкларацыі недастатковыя. Шырокія масы аматараў мастацтва хочуць бачыць у мастацтве чалавека вялікага сэрца, палымянага інтэлекту. Герой сучаснага мастацтва павінен валодаць, прынамсі, не менш яркай індывідуальнасцю, чым сённяшні слухач музыкі. Вось чаму ідэя павісае ў паветры, калі рупарам яе выступае сумны, нецікавы чалавек. Дык як жа можна задавальняцца творамі, закліканымі ўвасобіць абагульненую карціну жыцця, у якіх, тым не менш, няма яркай чалавечай асобы? А колькі ў нас такіх твораў, ды яшчэ прысвечаных сучаснай тэме!

Мне хочацца спыніцца на песеннай творчасці беларускіх кампазітараў. Будзем гаварыць шчыра: песенны жанр у нас цяпер значна адстае ад патрабаванняў жыцця. Нягледзячы на асобныя ўдачы, значная частка створаных у апошнія гады песень па ідэйна-мастацкаму ўзроўню не адпавядае высокім патрабаванням, якія прад'яўляе народ да гэтага баявога, надзённага жанра музыкі. Вельмі абмежаваная тэматыка песень. Лірычная, так званая эстрадная песня, амаль зусім выцесніла песні грамадзянскага, гераічнага гучання, якія развівалі б традыцыі народнай, рэвалюцыйнай песні.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

## Канцэрт маладых

Зацікавіла мінчан творчая справаздача-канцэрт навучэнцаў Мінскага музычнага вучылішча. На сцэне клуба імя Ф. Дзяржынскага дэманстравалі сваё майстэрства маладыя выканаўцы — піяністы, спевакі, цымбалісты, скрыпачы, баяністы, удзельнікі сімфанічнага і баяннага аркестраў, ансамбля народных інструментаў.

Канцэрт пачаўся выступленнем хору, які выканаў «Заздраўную песню» з кантаты А. Аруцюняна «Радзіма», песню В. Мурадэлі «Красная Прэсня» і «Усхваленне прыроды чалавекам» Бетховена.

Творы М. Будашкіна і М. Чуркіна выразна прагучалі ў выкананні аркестра народных інструментаў пад кіраўніцтвам Г. Жыхарава. Моцнае ўражанне пакінула выступленне ксілафаніста Ю. Альбіцкага, які выканаў уступ да IV дзеі оперы Бізэ «Кармэн», «Мазурку» Г. Вяняўскага і вальс Ф. Крэйслера. Поспеху многіх маладых выканаўцаў значна спрыяла канцэртмайстар Я. Марозава.

Суровай урачыстасцю вызначалася выкананне сімфанічным аркестрам вучылішча пад кіраўніцтвам А. Нікалаева ўверцюры з музыкі Бетховена да трагедыі Гётэ «Эгмант». З аркестрам выступіла маладая піяністка Т. Сергіеўская. Яна выканала першую частку канцэрта Бетховена для фартэпіяна з аркестрам.

Канцэрт закончыўся выступленнем баяннага аркестра (кіраўнік Г. Жыхараў), які іграў «Чардаш» у апрацоўцы Казакова і «Слаўся» з оперы М. Глінкі «Іван Сусанін».

Г. ВАСІЛЬЕЎ.

## Камплектуюць бібліятэчкі

Работнікі Рэчыцкага кніжнага магазіна пасля студзеньскага Пленума ЦК КПСС аддаюць вялікую ўвагу прапагандзе і рэалізацыі сельскагаспадарчай літаратуры. Яны прывозяць у калгасы кнігі, камплектуюць бібліятэчкі жывёлаводам, механізатарам, паляводам і спецыялістам сельскагаспадарчай вытворчасці. Толькі за два апошнія выезды ў калгасы «40 год Кастрычніка» і «Шлях да камунізма» рэалізавана сельскагаспадарчай літаратуры на 150 рублёў.

Р. МАРГОЛІН.



### НА АТРЫМАННЕ ЛЕНІНСКАЙ ПРЭМІІ

КІРГІЗСКАЯ ССР. Творы маладога кіргізскага пісьменніка Чынгіза Айтматава ведаюць і любяць далёка за межамі рэспублікі. Яны перакладзены на многія мовы народаў СССР і замежныя мовы.

Праўленне Саюза пісьменнікаў Кіргізскай ССР прадставіла яго аповесць «Джаміля» на атрыманне Ленінскай прэміі 1961 г.

Цяпер Ч. Айтматаў працуе над серыяй апавяданняў, прысвечаных барацьбе народаў за мір.

**На здымку:** пісьменнік Чынгіз Айтматаў.

Фота А. Клейменава.
Фотахроніка ТАСС.

# НАДЗЁННЫЯ ПРАБЛЕМЫ

(З тэарэтычнай канферэнцыі)

Добры пачын зрабіў Мінскі гарком партыі. Трэцяга красавіка ён правёў тэарэтычную канферэнцыю работнікаў мастацтва сталіцы.

Бадай, упершыню за апошні час адбылася такая шырокая творчая размова па надзённых пытаннях мастацтва. Акрамя асноўнага даклада «Сучасная савецкая рэчаіснасць — галоўны змест творчасці дзеячоў літаратуры і мастацтва» (дакладчык — кандыдат мастацтвазнаўчых навук **Ул. Няфёд**), удзельнікі канферэнцыі праслухалі чатыры садаклады.

«Роля тэатра ў стварэнні рэпертуару на сучасную тэму» — з гэтым садакладам выступіла **В. Рэдліх,** мастацкі кіраўнік Рускага тэатра імя Горкага; пра сучаснасць у музыцы падрабязна і змястоўна гаварыў кампазітар **А. Багатыроў.** Рэжысёр кінастудыі «Беларусьфільм» **Р. Віктараў** выступіў з садакладам «Рэчаіснасць і яе адлюстраванне ў сучаснай кінематаграфіі». «Вобраз перадавога сучаснага чалавека ў творах выяўленчага мастацтва» — тэма садаклада старшыні праўлення Саюза мастакоў БССР **П. Нікіфарава.**

Цікавы і насычаны фактамі быў садаклад кампазітара А. Багатырова, чаго, на жаль, нельга сказаць пра астатнія садаклады. I тут хочацца сур'ёзную прэтэнзію прад'явіць П. Нікіфараву. Ён у свой час рабіў даклад на рэспубліканскім сходзе мастакоў, дзе абмяркоўвалася выстаўка 1960 г. На сходзе П. Нікіфараў даволі грунтоўна аналізаваў творчасць беларускіх мастакоў. На канферэнцыі ж абмежаваўся асобнымі заўвагамі, думкамі; не было тэарэтычнага абагульнення творчай практыкі мастакоў, не было сур'ёзнай размовы пра тое, чаму рэспубліканская выстаўка не задаволіла гледачоў, якія задачы паставіў саюз, каб выстаўка ў кастрычніку гэтага года была больш цікавая і змястоўная.

Не зусім прадумана былі вызначаны садакладчыкі па астатніх дзвюх тэмах. У В. Рэдліх вельмі вялікі творчы вопыт работы ў тэатры, але яна нічога не здолела сказаць пра ролю тэатра ў стварэнні рэпертуару на сучасную тэму, бо ў Беларусі яна зусім нядаўна і мала знаёма з практыкай работы беларускіх тэатраў. А ўжо калі ставіць такую тэму на абмеркаванне канферэнцыі, дык у першую чаргу трэба было б прааналізаваць работу тэатраў Беларусі.

I зусім не задаволіў удзельнікаў канферэнцыі садаклад Р. Віктарава, які абмежаваўся агульнымі заўвагамі па пытаннях кінематаграфіі і ніводным словам не ўпамянуў беларускія фільмы пра сучаснасць. Праўда, такіх фільмаў Беларуская студыя выпусціла вельмі мала. Дык тым больш варта было паставіць пытанне: чаму тэма сучаснасці не займае законнага месца ў планах студыі «Беларусьфільм».

### УДЗЕЛЬНІКІ ПАШЫРАЮЦЬ ПРАГРАМУ КАНФЕРЭНЦЫІ

Спрэчкі па дакладу і садакладах разгарнуліся даволі ажыўлена. Цэнтральнай думкай усіх выступленняў было тое, чым работнікі мастацтва сустрэнуць XXII з'езд партыі.

Дырэктар Белдзяржфілармоніі **А. Каландзёнак** і дырэктар Тэатра оперы і балету **П. Лютаровіч** расказалі пра шырокія творчыя планы двух самых вялікіх музычных калектываў. На філармонію і оперны тэатр ускладаецца вялікая адказнасць у справе музычнага выхавання працоўных. Іменна яны павінны быць цэнтрам музычнай прапаганды ў рэспубліцы. Таму план работы філармоніі распрацаваны зараз так, каб музыка і песні майстроў мастацтва чутны былі не толькі ў буйных гарадах, але і ў раённых цэнтрах, калгасах, саўгасах. Там праводзяцца музычныя лекторыі, арганізуюцца канцэрты. Оперны тэатр рыхтуе да XXII з'езду партыі новы балетны спектакль «Мара балерыны». Распрацаваны план пастановак оперных і балетных спектакляў на сучасную тэму да 1963 г., калі будзе святкавацца 30-годдзе тэатра. Да свайго юбілею калектыў тэатра будзе мець сем спектакляў на тэмы сучаснасці.

Было б цікава пачуць, ці мяркуе оперны тэатр уключыцца ў рух па аказанню дапамогі народнай мастацкай самадзейнасці. Гэты рух нараджае сёння практычныя і тэарэтычныя праблемы, пра якія ўжо надышоў час гаварыць наогул, а тым больш — на тэарэтычных канферэнцыях.

На жаль, П. Лютаровіч нічога не сказаў па гэтаму пытанню, бо ў тэатры, відаць, няма яшчэ канкрэтных планаў.

### УЗНІМАЦЬ ГРАМАДЗЯНСКІ ПАФАС МАСТАЦТВА!

Да гэтага заклікала ва ўсхваляванай прамове народная артыстка БССР **А. Абуховіч.** Кожны з нас, сказала яна, павінен адчуваць адказнасць перад народам. Яна заклікала работнікаў мастацтва аддаць увесь свой творчы гарт справе служэння народу.

— Чаму наша мастацтва часам бывае шэрым? — паставіў пытанне рэжысёр, прафесар **К. Саннікаў.** — Таму, што многія нашы акцёры карыстаюцца яшчэ старымі катэгорыямі, прыёмамі, штампамі, якія перашкаджаюць ствараць хвалюючае мастацтва. Вобраз сучаснага героя нельга ажывіць толькі акцёрскай тэхнікай, рамяством. Ён будзе мёртвы, калі сам акцёр не хвалюецца думкамі, барацьбой, горам і радасцю свайго героя, калі пафас героя не даходзіць да сэрца акцёра.

На першым плане ў акцёра павінна быць палымянае грамадзянскае пачуццё, пафас сучаснасці, без якога не адыграе сваёй станоўчай ролі нават самая філігранная тэхніка. I стаўленне да сваёй творчасці мусіць быць асветлена і сагрэта агнём грамадзянскага абавязку, любві да жыцця і чалавека.

Між тым, бываюць яшчэ факты, якія сведчаць пра іншае. Купалаўскі тэатр ставіць спектакль «Вера, Надзея, Любоў» па п'есе П. Васілеўскага. Тэма і матэрыял п'есы звязаны з жыццём і працай будаўнікоў Салігорскага камбіната.

Пастановачны калектыў вырашыў паехаць на камбінат паглядзець сваіх герояў у жыцці. З 16 удзельнікаў спектакля 10 акцёраў не з'явіліся ў дзень выезду і тым самым сарвалі паездку на камбінат.

Гэта пагарда да свайго грамадзянскага абавязку, фанабэрлівая самаўпэўненасць у сваім таленце, з дапамогай якога такі акцёр спадзяецца стварыць вобраз героя і без ведання жыцця!

З цікавасцю ўдзельнікі канферэнцыі слухалі расказ К. Саннікава пра выступленне народнага артыста СССР Б. Платонава ў спектаклі Аршанскага народнага тэатра «Канстанцін Заслонаў».

Акцёр-грамадзянін не толькі любіць свой народ, але і глыбока вывучае яго жыццё, быт, культуру, мову.

Гэтую думку падкрэсліла галоўны рэжысёр Тэатра юнага гледача **Л. Мазалеўская.**

— Першая адзнака нацыянальнай культуры, — кажа яна, — гэта слова, мова.

Далей Л. Мазалеўская прыводзіць шмат прыкладаў, калі мова, на якой акцёры размаўляюць са сваімі гледачамі, засмечана, знявечана неахайным вымаўленнем ці проста часам ігнаруецца ў практыцы работы некаторых беларускіх тэатраў, у тым ліку і ў купалаўскім.

У свой час у Мінск прыехаў рускі драматург і рэжысёр Я. Міровіч. Глыбока паважаючы культуру беларускага народа, ён дасканала вывучыў беларускую мову і сваёй рэжысёрскай работай і п'есамі стварыў цэлую эпоху ў тэатральным мастацтве Беларусі.

Цяпер да нас таксама прыязджаюць на работу асобныя дзеячы тэатральнага мастацтва, але яны чамусьці не лічаць патрэбным вывучаць беларускую мову, не ведаюць яе, а на рэпетыцыях часта патрабуюць выключэння ці замены таго ці іншага беларускага слова толькі таму, што яно быццам незразумелае ці дрэнна гучыць з пункту гледжання такога дзеяча.

Л. Мазалеўская катэгарычна і вельмі слушна патрабуе рэзка павысіць культуру беларускага слова на сцэне нашых тэатраў, павысіць адказнасць кіраўнікоў тэатраў, рэжысёраў і акцёраў за тое, каб са сцэны гучала чыстая, прыгожая мова народа.

### ПРЫНЦЫПОВАСЦЬ МАСТАКА — ПЕРШ ЗА ЎСЁ

Драматург **А. Кучар** палемізаваў з Ул. Няфёдам у яго вызначэнні сучаснасці. Сучаснасць, на думку А. Кучара, гэта не толькі нашы дні. Фільм «Балада пра салдата» таксама глыбока сучасны твор, бо выхоўвае ў нашай моладзі высокія патрыятычныя пачуцці, без якіх нямысліма жыццё нашага сучасніка.

Але разам з тым наша мастацтва павінна быць надзённым у лепшым сэнсе гэтага слова, як глыбока надзённай была творчасць Маякоўскага. Сапраўдны надзённы твор будзе жыць многія гады, калі мастак стаіць на цвёрдых, ідэйна прынцыповых пазіцыях свайго часу, а не патурае кан'юнктуры. А. Кучар прыводзіць павучальны ў гэтым сэнсе прыклад з п'есай «Выбачайце, калі ласка!» А. Макаёнка. Кан'юнктуршчыкі ў свой час аб'яўлялі яе ледзь не паклёпніцкім творам, а сёння, пасля студзеньскага Пленума ЦК КПСС, гэтая п'еса—адна з самых вострых і надзённых—зноў з поспехам ідзе ў тэатры.

Цікавыя думкі выказаў пісьменнік **І. Грамовіч.** Ён заклікаў работнікаў мастацтва звярнуць сур'ёзную ўвагу на выхаванне нашай моладзі, якая ўвайшла ў жыццё пасля вайны і не перажыла цяжкіх выпрабаванняў, што прыпалі на долю старэйшых пакаленняў. Трэба больш пісаць пра моладзь і для моладзі, выхоўваючы ў яе пачуццё адказнасці перад сваім народам і партыяй.

З вялікай увагай было праслухана выступленне народнага артыста СССР **Б. Платонава.** Ён пагадзіўся з тым, што тэатр павінен жыць тым, чым жыве сёння савецкі народ. Але ці гатовы сёння тэатр ісці ў нагу са сваім народам? Адказваючы на гэтае пытанне, Б. Платонаў таксама даводзіць, што асобныя майстры мастацтва страцілі творчае адчуванне жыцця, прытупілі сваю прынцыповасць, супакоіліся. А гледзячы на іх, і сёй-той з маладых акцёраў дазваляе сабе спачываць «на лаўрах», не вучыцца, не расце.

Усё гэта разам узятае, кажа Б. Платонаў, стварыла такое становішча, што ў тэатрах сапраўды заўважаецца нейкі застой, які зусім не пасуе да таго, што робіцца ў краіне. Вызначальная рыса савецкага артыста — яго сувязь з народам. Гэта трэба зразумець нам усім і глядзець на грамадскую дзейнасць як на неабходную для творчасці, майстэрства. Інакш мы не здолеем быць артыстамі савецкага тэатра.

Гэтыя словы Б. Платонава нібы падагулілі цікавую і карысную канферэнцыю.

Размова пра сучаснасць нашага мастацтва была вельмі неабходнай і своечасовай.

Выступілі ў спрэчках таксама мастацтвазнаўца **Л. Дробаў** і супрацоўнік Музея Вялікай Айчыннай вайны **Д. Петрачэнка.**

У канферэнцыі прыняў удзел загадчык аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ **М. Халіпаў.**

# ЁСЦЬ ЦІКАВАЯ ЗАЯЎКА

Кніжку маладога пісьменніка, імя якога ў літаратуры з'явілася нядаўна, разгортваеш заўсёды з цікавасцю і разам з тым з насцярожанасцю. Хочацца пачуць у ёй свежы голас, убачыць непасрэдныя, схопленыя маладым, пільным вокам назіранні, адчуць шырыню кругагляду аўтара і яго мастацкае мысленне. Што перад намі — спроба пяра ў літаратурна-мастацкай творчасці, нешта яшчэ шэрае, невыразнае ці пробліск шматабяцаючага таленту? — такое пытанне паўстае перад кожным, хто шчыра любіць літаратуру і сочыць за ёй, калі ён сустракае новае імя на вокладцы кніжкі.

У апошнія гады ў беларускай прозе выступіла нямала маладых і па ўзросту і па літаратурнаму стажу таварышаў. Некаторыя з іх звярнулі на сябе ўвагу бясспрэчнай таленавітасцю, сур'ёзным, працавітым стаўленнем да творчасці, удалымі творчымі пошукамі. Да такіх маладых празаікаў можна смела прылічыць Вечаслава Адамчыка, зборнік апавяданняў якога «Млечны шлях» *) выйшаў не так даўно ў Дзяржаўным выдавецтве БССР.

В. Адамчык не часта друкуе свае новыя творы, і ў гэтым зборніку змешчана ўсяго сем апавяданняў. Але, калі чытаеш іх, нязменна заўважаеш настойлівую, руплівую работу аўтара над творам, над увасабленнем сваёй задумы ў мастацкую форму. У В. Адамчыка добра прыкметны талент апавядальніка. Не лірычныя імпрэсіі, не бессюжэтныя замалёўкі, а іменна апавяданні, у аснову кожнага з якіх пакладзена пэўная гісторыя чалавечых узаемаадносін, сутыкненняў характараў у розных абставінах; апавяданні сюжэтна арганізаваныя, насычаныя мастацкімі дэталямі, характэрны для яго творчасці.

Ёсць у гэтых апавяданнях аўтарская ўсхваляванасць за лёс, паводзіны, учынкі сваіх герояў, ёсць пранікненне ў псіхалагічны, душэўны стан чалавека, ёсць чысціня пачуццяў і думак тых, хто нясе асноўную ідэйную нагрузку ў тым ці іншым апавяданні. Аўтар умее скупа, але выразна паказаць абставіны, у якіх жывуць яго героі: ці дзея адбываецца ў вёсцы, ці на цаліне, ці ў горадзе, стварыць патрэбную яму атмасферу, настраёвасць.

Нам блізкія і зразумелыя перажыванні студэнта Косці Манцэвіча з апавядання «Млечны шлях», выключанага на два гады з інстытута нібыта за непаспяховасць. Выключылі яго несправядліва, па настаянню намесніка дэкана, якога Косця крытыкаваў і, як аказалася пазней, справядліва. Косця два гады прабыў на цаліне і вярнуўся ў родны інстытут, каб працягваць вучобу. Былыя аднакурснікі яго ўжо скончылі інстытут, сёй-той нават прыладзіўся ў аспірантуру, але гэта не бянтэжыць, не засмучае Косцю; ён — узмужнелы, поўны новай энергіі. Адно, што найбольш хвалюе яго, — гэта лёс Валі, таксама студэнткі-аднакурсніцы, шчырае каханне да якой ён пранёс праз гэтыя гады.

Яны з Валяй сустрэліся. Яна не дачакалася яго з цаліны, выйшла замуж за чалавека, — Косця яго ведае, — намнога старэйшага за іх, але які можа забяспечыць ёй матэрыяльныя выгады; у яе ўжо нарадзілася дзіця. І вось — рэакцыя Косці, якая трапна завяршае абмалёўку ягонага вобраза. Ён бачыць цяпер перад сабой жанчыну «чужую, усяго толькі падобную на тую колішнюю Валю, якую кахаў і кахае яшчэ моцна і, пэўна, будзе кахаць усё жыццё. Яна навечна ўвайшла ў яго мары. Ён сустрэне яе, абавязкова сустрэне, мілую, добрую, прыгожую Валю! Яна ходзіць недзе тут».

В. Адамчык нарадзіўся ў былой Заходняй Беларусі, звязаны з роднымі мясцінамі, з людзьмі, знаёмымі з дзяцінства, і, вядома, іх мінулае і сённяшняе, змены ў іх жыцці не могуць не прыцягваць яго ўвагі. Ён апавядае і пра каханне маладога парабка і кулацкай дачкі Зоні, якая выйшла пад націскам бацькі замуж за нялюбага пажылога багача, і аб нараджэнні новага ў псіхалогіі аднаасобніка — замкнёнага ў сябе, панурага Язэпа, які затрымлівае свайго дружбака-суседа, калі той крадзе калгаснае дабро, і аб тым, як з прыходам Савецкай улады разышліся шляхі двух сяброў — былых парабкаў, удзельнікаў рэвалюцыйнага падполля.

Разлад у даўнім сяброўстве Рыгора Падліпскага і Алеся Макарчыка ў апавяданні «На крыжавых дарогах» выглядае натуральным і абгрунтаваным. Рыгор пры Савецкай уладзе ўвесь увайшоў у будаўніцтва новага жыцця, Алесь жа, ажаніўшыся на заможнай удаве, падпаў пад уплыў дробна-ўласніцкай стыхіі.

Абуджаная абставінамі дробнаўласніцкая прагавітасць ставіць Алеся ўпоперак шляху, на які паварачвае вёска, ламаючы стары ўклад жыцця. Алесь адмаўляецца ўступіць у калгас, а ў асобе Рыгора — цяперашняга старшыні сельсавета бачыць асабістага ворага, які нібыта замахваецца на яго ўласніцкі дабрабыт. І аднойчы ўвечары, раз'юшаны, ён страляе праз акно ў Рыгора. Няхай такая сітуацыя і пададзена ў крыху загушчаных фарбах, але яна праўдзіва адлюстроўвае ўсю складанасць пералому ў жыцці заходне-беларускай вёскі пры яе пераходзе на сацыялістычны шлях.

Нельга не заўважыць у пісьменніка яго імкненне будаваць апавяданне ў навелістычным плане, з лагічна падрыхтаванай і ўсё ж як бы нечаканай развязкай. Тыповае, бадай, у гэтых адносінах апавяданне «За перагародкай».

Малады хлопец — карэспандэнт газеты едзе ў аўтобусе. На адным з прыпынкаў у аўтобус заходзіць кантралёр — зусім маладая прыгожая жанчына. Хлопец пазірае на яе з захапленнем і яна адказвае на гэта гуллівымі позіркамі. Ідучы прасёлкам у калгас, ён ад выпадковага спадарожніка даведваецца, што яна — дачка старшыні гэтага калгаса. Так яно і ёсць: позна ўвечары ў хаце старшыні, дзе хлопец застаецца начаваць, з'яўляецца тая ж прыгажуня, якую завуць Лідачка. Яна ўвіхаецца каля хлопца, какетнічае з ім, выклікаючы ў яго неўразуменне і разгубленасць. Што за яна? — мучыць яго пытанне, і раптам пачутая за перагародкай размова пралівае святло на ўсё:

— Не заступайся, хопіць, — дакарае Лідзін бацька жонку.—Я нават саромеюся людзям у вочы глядзець. Заўтра ж няхай едзе па дзіця. Мужа кінула... Дзіцяці адраклася.. Не ўжыліся. І пара кінуць гэтае кантралёрства. І ў калгасе ад работы рукі не адваляцца. Выняньчылі гэтакую...

Псіхалагічнай напружанасцю, вельмі тонкай перадачай думак і пачуццяў трынаццацігадовага хлопчыка, бацька якога памёр, а маці праз год узяла да сябе ў хату другога мужа, вызначаецца апавяданне «Срэбра на павуціне».

Праўда, іншы раз, шукаючы вострую, псіхалагічна напружаную сітуацыю, і В. Адамчык здраджвае свайму густу, уменню выбіраць з жыццёвых назіранняў найбольш важнае, характэрнае. Так, на мой погляд, няўдалым па самой задуме, мэтанакіраванасці атрымалася апавяданне «Ліповы цвет».

Добры па натуры, працавіты грузчык Сяргей узяў сабе за жонку ўдаву, мужа якой ён не ведае. Нарадзілася дачка, сям'я склалася дружная. Сяргей любіць і шануе сваю жонку. Але аднойчы ён пачуў, як вартаўнік склада, «марны, дробны чалавек», гаварыў некаму: «Што ні кажы, а на тое яна і баба: раз пакаштавала з адным, то з другім не ўжыве», — і Сяргей пачаў раўнаваць жонку да яе былога мужа. Ён пакутуе, у сям'і пайшлі нелады. І толькі калі неяк яго зацягнула да сябе лёгкадумная жанчына, напаіла, і калі ён пераначаваў у яе, наступіла прасвятленне: Сяргей ідзе дахаты вінаваты, з любоўю да сям'і, з перакананнем, што яго жонка лепшая ў свеце.

Ад апавядання патыхае даўняй збітай схемай, якую пісьменнік імкнуўся напоўніць сучасным матэрыялам. І думка аб тым, якім шляхам праверыць свае пачуцці, фальшывая ў дачыненні да нашага сённяшняга чалавека. «Ліповы цвет» — пошукі не ў тым кірунку, у якім развіваецца творчасць В. Адамчыка.

Многія мясціны апавяданняў зборніка сведчаць аб пільнай назіральнасці пісьменніка, аб яго здольнасці ўдала знойдзенымі мастацкімі дэталямі стварыць уяўленне цэлага — вобраз, малюнак.

Вось партрэт кулака Дойлы, які зайшоў у гумно, дзе працавалі парабкі: «Аблавухая шапка, якую ён, швэндаючыся пры доме, усю зіму не падвязваў, збівалася на вочы, на шыі замест шаліка палатняны ручнік, шэрае суконнае галіфэ на сцёгнах, як у пана войта, падлаплена хромам».

Запамінаюцца і «чыстыя слёзы шчодрай расы» ў першых сонечных промнях, і «гарбатыя белыя плечы ўзгорка», што засланілі сіні лясок, і ялінка ў зімовым убранні — «Андрэю здалося, што гэта стаіць жанчына ў пуховай хустцы, у зялёным драпавым паліто і махае яму рукою», і «даўгавіды, пануры твар» Сіўтука, і Васілёў нос — «праўду кажуць: каб зачапіўся за парог ды на нос не абапёрся, то, пэўна, упаў бы», шмат і шмат іншых дэталей, трапна ўплеценых у тэкст.

У Вечаслава Адамчыка ёсць усё для таго, каб яго новыя творы на самыя разнастайныя тэмы, былі яшчэ лепшыя, хвалюючыя.

**Тарас ХАДКЕВІЧ.**

*) **Вечаслаў Адамчык.** Млечны шлях. Апавяданні. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1960.





У Магілёве жыве і працуе мастак-графік А. Кандрусевіч—аўтар лінагравюр «Янка-бунтар», «Вярнуўся», «Лес». У апошні час спіс твораў магілёўскага мастака папоўніўся новымі назвамі. Ён стварыў выразныя графічныя партрэты М. Ге і Тараса Шаўчэнкі, гравюру на метале «Ірынка».

**На здымку:** лінагравюры «Вярнуўся» (уверсе) і «Лес» (унізе).

# Берагчы сляды гісторыі

(ПІСЬМО Ў РЭДАКЦЫЮ)

Інстытут гісторыі Акадэміі навук БССР праводзіць шырокія даследаванні археалагічных помнікаў Беларусі, вывучае старажытныя гарады старарускай дзяржавы — Полацк, Мінск, Гродна і інш.

Пінск — адзін з самых старых гарадоў заходніх абласцей старажытнай Русі. Першае ўпамінанне пра яго можна знайсці яшчэ ў летапісе Нестара 1097 г. На працягу ўсёй сваёй амаль 900-гадовай гісторыі Пінск займаў выдатнае месца сярод гарадоў паўночна-заходняй Русі, дзякуючы свайму выгаднаму геаграфічнаму становішчу.

Аднак гістарычнай навуцы дагэтуль невядомы акалічнасці ўзнікнення горада і характар яго развіцця, бо летапісныя дадзеныя пра яго вельмі скупыя. У гэтай справе павінны дапамагчы шырокія і дакладныя археалагічныя даследаванні.

Папярэднія раскопкі выявілі багаты гістарычны матэрыял, які сведчыць пра высокі ўзровень эканомікі і культуры старажытнага Пінска, пра шырокае развіццё рамяства і гандлю сярод яго жыхароў.

Так, у 1956 г. пры раскопках Замкавай гары знойдзена гарадское ўмацаванне ў выглядзе землянога вала, сабрана многа керамікі і розных прадметаў хатняга ўжытку XI—XIII стст., а таксама ўнікальная па разнастайнасці калекцыя каляровых фігурных паліваных керамічных плітак, якімі масцілася падлога ў храмах і княскіх палацах.

У 1960 г. на пінскім «дзядзінцы» (умацаваная частка горада) сабрана многа рэчаў, якія сведчаць пра высокі ўзровень развіцця рознага рамяства. Цікавейшыя са знаходак: шыты скураны абутак, абрэзкі добра вырабленай скуры і тыглі са слядамі плаўленага шкла і каляровых металаў.

Быў знойдзены цэлы комплекс жылых і гаспадарчых рубленых драўляных пабудоў, якія зроблены адною сякерай без пілы, і многа розных вырабаў з дрэва: ляскоткі, засаўкі, днішчы ад бочак, міска, карыта, граблі і інш. Навокал пабудоў сабрана многа жаночых убораў дамангольскага перыяду—абломкаў шкляных бранзалетаў, вельмі разнастайных форм і колераў, а таксама розны біты посуд з чорнай і шэрай гліны, выраблены на ручным ганчарным кругу. На днішчах гэтага посуду выразна відаць кляймо майстра. Там жа было многа чарапкоў ад амфар для віна, на адным з якіх напісана «Віно Яраполка» (Гэтая знаходка пацвярджае весткі з летапісу пра вяселле князя Яраполка Юр'евіча ў 1190 г. у Пінску). Такія пасудзіны прывозіліся з Кіева ці з Балканскага паўвострава. Шмат знойдзена розных жалезных прадметаў: каваныя цвікі, ключ ад унутранага замка, нож, шпора і інш., а ў ніжніх пластах раскопак — косці свойскіх і дзікіх жывёлін, рогі тура, луска і косці рыбы, шкарлупінне лясных арэхаў, абгарэлыя зярняты проса.

Вынікі папярэдніх раскопак сведчаць, што Пінск у даўнія часы славіўся сваім гандлем і багаццем. Асабліва цікавыя тыя са знаходак, якія гавораць пра развіццё рамеснай вытворчасці. Далейшыя даследаванні археалагічных помнікаў павінны стварыць шырокую карціну эканомікі і культуры старажытнага горада.

На жаль, выканком Пінскага гарсавета не толькі не дапамагае вучоным у іх пачэснай задачы, але перашкаджае. Нягледзячы на пастановы Савета Міністраў СССР і БССР, на тэрыторыі помніка капаюцца катлаваны для будаўніцтва і разбураюцца культурныя пласты старажытнага горада, што, безумоўна, прыносіць непапраўную шкоду.

Гістарычныя помнікі неабходна ўзяць пад ахову грамадскасці, каб захаваць іх для больш поўнага і дакладнага асвятлення мінулага нашага вялікага народа.

**Я. БІБІКАЎ,**
**навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР.**

## Вершы гучаць у цэху

Працаўнікі Мінскага завода аўтаматычных ліній сабраліся ў абедзенны перапынак у зборачным цэху, каб паслухаць маладых беларускіх паэтаў — Рыгора Барадуліна, Уладзіслава Нядзвецкага, Генадзя Бураўкіна, Уладзіміра Паўлава. Паэты прачыталі рабочым свае новыя вершы, вялі гаворку пра беларускую паэзію. Герой Сацыялістычнай Працы Аляксандр Віташкевіч, кранаўшчыца Настасся Ляшко, інжынер Барыс Індзік гаварылі пра вялікую цікавасць рабочых да беларускай літаратуры, выказалі пажаданне, каб паэты і празаікі напісалі добрыя творы аб маладым, але ўжо вядомым далёка за межамі Беларусі Мінскім заводзе аўтаматычных ліній.

У цэху працаваў кніжны кіёск. Слесары, кранаўшчыкі, расточнікі, інжынеры набылі кнігі паэзіі, творы ўдзельнікаў сустрэчы.

**Р. БЯЛОЎ.**

## Для сельскіх працаўнікоў

48 канцэртаў для працоўных Віцебскай і Гомельскай абласцей наладзіла канцэртная брыгада Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Артысты А. Самарадаў, Н Наследнік, В. Ліснеўская, М. Рамановіч, Л. Кузняцова, М. Пятроў і В. Гаўрылава выступалі ў Лепельскім, Ушацкім і Полацкім раёнах Віцебшчыны, у раённых цэнтрах Гомельшчыны — Азарычах, Калінкавічах, Нароўлі, Капаткевічах, Мозыры, Касцюкоўцы, Ельску. 30 выступленняў сталічныя артысты правялі ў калгасах і саўгасах.

**Алена ВАСІЛЕВІЧ**

# Карэспандэнтка

АПАВЯДАННЕ

У Лапічы—сяло, што па абодва бакі чыгункі, закінула мяне камандзіроўка. І вось трэці дзень я ў Тацяны Самусевіч, школьнай прыбіральшчыцы, удавы. Трэцюю ноч, да другіх пеўняў, не спім мы з Тацянай, вядзём бясконцую гутарку. Цікавы чалавек Тацяна. Я даведалася, што яна піша пісьмы ў рэдакцыю. І гэта акалічнасць ніяк не можа прымірыць некаторых лапічан з ёю. Падумаеш, адкуль ты такая разумная ўзялася, каб пісаць па рэдакцыях. Звычайная малапісьменная баба...

Але Тацяна не зважае: клопат вялікі, няхай сабе і малапісьменная, але ж выклапатала, дабілася праз тую ж самую рэдакцыю палёгкі суседцы. Зняў сельсавет незаконны падатак на ўдаву, хворую жанчыну. Няхай сабе дурная, але як напісала ў рэдакцыю, што старшыня ў іх калгасе прапівае людское дабро—дык з той жа самай рэдакцыі напісалі ў раён, а раённае начальства прыехала ў іх калгас, разабралася і зняло п'яніцу Змітрака Ходзьку са старшынства...

Праўда, пасля выпадку са старшынёй калгаса яна і сама напалохалася, бо не думала, што яно так станецца. Хіба ж яна такая ўжо зацятая, каб рабіць людзям прыкрасці? Яна ж толькі хоча, каб усё рабілася па шчырасці, каб людзям жылося лепш. Цяпер яна піша пра сваё ўласнае жыццё, пра жыццё сваіх суседак—гэтакіх, як і яна ўдоў. Любіць пісаць яна і пра сваіх «птушанятак»—пра вучняў свае школы, якую прыбірае яна старанней, чым уласную нават хату. А то часам прыдумвае і складае розныя гісторыі, якія з ёю самою ніколі не здараліся, але пра якія яна ў кніжках чытала. Праўда, апісвае яна гэтыя гісторыі на свой манер—бо ў кніжках таксама ў кожнай па-свойму пішацца. Чытае Тацяна шмат, і пасля кожнай прачытанай кніжкі ў яе нібы крылле адрастае. Вось ёсць жа людзі на свеце, што складаюць так гладка і прыгожа! І тады яна сама бярэ ручку, вырывае з вучнёўскага сшытка аркушок паперы і лезе на печ. Печ у Тацяны малая, але ёй адной хапае. Падвесіць да бэлькі лямпу, паставіць дзежачку-бліноцоўку (цяпер бліноцоўка гуляе — няма сям'і, няма каму і бліны пячы на сняданне)—і чым не канцылярыя?.. Тацяне чамусьці ўяўляецца, што ўсе самыя цікавыя кніжкі пішуцца ў канцылярыях за вялікімі сталамі... І піша.

А што ёй вечарамі цяпер яшчэ рабіць? Якую работу выдумляць сабе? Некалі, адразу пасля вайны, як дзеці былі яшчэ малыя, не згуляла яна ніводнага вечара. Усю зімачку, бывала, прадзе, а вясной кросны ставіць. Бо дзе было набрацца той крамніны, каб і сябе і дзяцей апрануць? Асабліва хлапца—штаны так і гарэлі! А летам зноў было—хоць разарвіся. Цэлы дзень у калгасе на полі, а вечарам прыбяжыш, дык не ведаеш, за што схапіцца: і карову падаі, і свінчо накармі, і дзеці просяць: «Мама, есці!..»

А цяпер што ж?

Цяпер Тацяна жыве адна. Сын Мішка скончыў тэхнікум і вось ужо другі год служыць недзе аж на Чорным моры, у горадзе Севастопалі. На караблях плавае і таму пісьмы матцы піша рэдка. Часцей фотакарткі прысылае: то ў бесказырцы са стужкамі, то ў шынялі, то адзін, то з таварышам. Удалы хлопец. Не горшы за людскіх. Дарма, што без бацькі, адны гадаваліся дзеці...

Хацелася б, вядома, каб пасля службы сын застаўся на жыццё дзе-небудзь паблізу. І месца было б і работа знайшлася б: добры тэхнікум сынок скончыў, будаўнічы. Але дзе яно відана. Да службы працаваў ужо на добрай рабоце недзе аж пад самай Масквой. Там і пакой яму далі нават. Дык пэўна ж туды і паедзе. Не можа ж быць таксама, каб і дзяўчыны не засталося там. З Мінска, яшчэ ў тэхнікуме калі вучыўся, вельмі ж ужо адна дабівалася да яго пісьмамі. І ён ёй пісаў. Але хіба ж яна адна, удалая, на свеце?..

Дачка Насця зноў—пайшла замуж і аддзялілася. Пабудавалі сабе з мужам добрую хату, і бывай, матка! Жыві здарова пад сваёй старой удовінай страхою... Аднак нічога не зробіш—такое жыццё.

Некалі і сама яна, Тацяна, як пачаліся калгасы, гэтак сама закамандавала гаспадару: хачу жыць сваёй хатай, сваёй сям'ёю. А ён тады таксама заставаўся адзіным сынам пры мацеры. Праўда, і маці тая—Тацяніна свякруха—была з норавам жанчына. Сама ў калгас не запішуся—і вам, маладым, дурным, няма чаго наперад за людзей вытыкацца! А яны, Тацяна з Костусем, не паслухалі матку, узялі ды і «выткнуліся»—першымі запісаліся ў калгас. А потым Костуся абралі старшынёй калгаса— так і старшынстваваў, аж пакуль на вайну не забралі. Пабудавалі яны тады сабе новую хату. Невялікую, не самую лепшую на сяле, але затое сваю... Свякруха так і памерла, ніводнага тацянінага дзіцяці не то каб панянькала, а ў рукі нават не ўзяла. Як жа: нявестка адабрала і збіла з тропу адзінага сына! Яшчэ пакляла Тацяну:

— Каб цябе гэтак твае дзеці пакідалі, як мяне кінуў мой!..

Аднак праклёны тыя не вельмі турбавалі тады Тацяну: дзеці раслі здаровыя. Самі яны з Костусем жылі дружна. Праўда, работы ў калгасе было многа. Але Костусь умеў людзей разумець, умеў разумна кіраваць гаспадаркай. За гэта і людзі яго паважалі, і калгас з году ў год дужэў. І сама яна, старшыніха, здаецца, не хадзіла па зямлі—на крыллях лётала...

Вайна ўсё знішчыла, зруйнавала.

Адбудоўваць жыццё пасля вайны Тацяна ўзялася ўжо адна—Костусь з вайны не вярнуўся.

І вось прайшоў час, усё як быццам забылася, загаілася. Сама ўзняла на ногі гаспадарку, сякі-такі набытак прыдбала. І дзяцей выгадавала. І навуку не горшую за людзей дала дзецям. Валодзька тэхнікум скончыў, а Насця—дзесяцігодку. У інстытут, як не дабівалася і сама яна, і Тацяна клапатала (ведама, няхай бы дачка вучылася ў горадзе), — не прайшла. Але клопат вялікі: засталася на ферме, і цяпер людзі лепшай даяркай лічаць. І зарабляе не горш заатэхніка ці агранома. Праўда, пагаварвае пра завочнае. Але дзе яно, мусіць, будзе тое завочнае, калі малога чакаюць...

Выраслі, адышлі дзеці—а з імі як быццам павінен бы адысці і клопат: няма каму наравіць, няма для каго спяшацца ўставаць. А ўсё роўна неспакойна душа: то ад сына доўга няма пісьма, то дачка зайшла нейкая пахмурная... Захацела аддзяліцца, а ці ёй пры матцы роднай горш было? Вядома добра, што пабудаваліся, што хату добрую паставілі... Але няхай бы хоць для людзей заікнулася: «Жыві і ты, мама, з намі...» Хіба не знайшлося б для яе месца ў тых іх трох пакоях? Дык не! Яна мо' і сама не пайшла б да іх: у гаспадаровай, хоць і старой, хаце, як ні кажы, а смялей, чым у зяцевай новай... І хлеба яна сабе яшчэ заробіць. Але няхай бы было толькі сказана тое слова...

Прывыкла Тацяна прачынацца ў пяць гадзін— і тады хоць ты вочы зашый. Будзе варочацца з боку на бок, думак перадумае немаведама колькі, а не засне больш, не звядзе вокам. І ўставаць не хочацца: колькі ў яе цяпер тае гаспадаркі засталося: асянчук кабанчык ды дзве курыцы з пеўнем. Карову і свінню паросную аддала дачцы з зяцем—каб не з пустымі рукамі і не на голым месцы жыццё пачыналі. Аддзяліла ім таксама шафу новую, ложак нікеляваны, стол... Як пагрузіліся на машыну, ды як крануліся з месца, думала не вытрымае сэрца: «А дачушка ж ты мая, а дзеткі ж вы мае, чым жа вам такая кепская была маці?..»

Цэлы дзень, як сама не свая, хадзіла па пустой хаце і галасіла, быццам нябожчыка вынеслі з гэтае яе старэнькае хаты... А к вечару выплакалася, агледзелася: не такая ўжо яна і пустая гэта хата: жалезны школьны ложак (школа дала яго Тацяне на часовае карыстанне), пасудная шафка (яшчэ нябожчык Костусь сам рабіў некалі да вайны). А каб куток не пуставаў—зяць загадзя змайстраваў невялікі столік... Заслала яго белым абрусам і не ўбачыла ніякай розніцы: у магазіне той стол куплены ці сваімі рукамі зроблены. Дзякуй богу, у хлопца рукі спраўныя... Потым вымыла падлогу, прыбрала, а як прыйшла вечарам Марфа—Тацяніна таварышка—зноў залілася слязьмі.

Аднак Марфа, таксама, як і Тацяна, удава з вайны, і сама не кісла, якім бы горкім бокам не паварочвалася да яе жыццё, і другім не давала кіснуць. Яна скрыжавала на магутных грудзях пульхныя рукі і свае адносіны да Тацяніных слёз выказала вельмі коратка:

— Цьфу! Цьфу на цябе, дурніца!

— Але, табе добра... А людзі ж што скажуць... —не дагаварыла і яшчэ мацней залілася слязьмі Тацяна.

— Людзі?!—нібы сякерай замахнулася Марфа. —Людзі?! Мой сынок таксама не пытаўся ў мяне, а выбраў сабе на восем гадоў старэйшую... Вядзе яе па вуліцы пад ручку, а людзі глядзяць у вокны і насміхаюцца... А я кажу: «Добра! Вадзі! Вадзі і жыві так, каб вам абоім добра было!..» А што людзі скажуць—дык няхай яны раней на сябе паглядзяць, як яны самі жывуць...

Марфа скідае з сябе ватоўку, хустку і, нібы добрая веснавая хмара, рушыць на Тацяну, маленькую, худую, у вузкай цёмнай спадніцы і кароткай паркалёвай кофтачцы. Дзяўчынка-падростак, а не баба.

— Ты зірні на сябе!—тым часам грыміць Марфа,—высахла ў трэску, пачарнела.... Што ж ты ў сорак сем гадоў хочаш сябе ўжо жывою ў магілу закапаць? Выгадавала дзяцей—і хопіць! Захацелі жыць асобна—няхай жывуць! Не век жа ты будзеш на іх выстачаць... А што людзі скажуць? Дык няхай яны гэтак, як мы з табой, удовы, пагадуюць, павывучваюць сваіх дзяцей, няхай пажэняць іх, а потым ужо і турбуюцца за нас...

Тацяна слухае Марфу, усхліпвае ўсё радзей і непрыкметна зусім супакойваецца. Умее, яна, Марфа, супакоіць сэрца. Ніколі не будзе гаварыць табе спачувальных слоў ці шкадаваць цябе, наадварот, палае, накрычыць на цябе. Але ўсё гэта ідзе ў яе з глыбіні яе добрага спачувальнага сэрца. І чалавек, якога прабірае Марфа, адчувае гэта.

— Давай лепей будзем вячэраць. Адной мне таксама нудота. Валька ж мая сёння паехала на практыку,—пераводзіць гутарку на другое Марфа.—Выпхнула, нарэшце, дзеўку. А то бачыш, тэхнікум канчаць канчала, а як на практыку ў калгас, дык не хачу! Сталічная паненка знайшлася!.. Дык я ёй сваё слова і сказала: «Дачушка, кажу, твой бацька склаў галаву на вайне, а ты, як свіння, лыч адварочваеш ад зямлі, якую ён бараніў... А я твая маці, дзе працую? На той самай зямлі, у калгасе. Дык вось вывучыла цябе дзяржава на агранома, падзякуй ёй і не паказвайся мне на вочы, пакуль чалавекам не станеш...» Вось так я адправіла сваю дачушку... Дзе ў цябе востры нож, Тацяна? Гэта ж мне сёння сваха свяжыны прынесла.

Потым Марфа дастае з кішэні чацвярцінку, разлівае яе па шклянках і, з задавальненнем пацягнуўшы носам, раптам сама коратка ўсхліпвае:

— Не тужы, таварышка. Перажылі горшае, перажывём меншае... Хіба я думала некалі, што перажыву пахаронку па свайму Мікалаю... А вось жа—жыву.

Яны па-жаночы, з разгону, стукаюцца шклянкамі, выпіваюць самагонку.

— Ото ж паскудства!—рукавом выцірае рот Марфа і адкавяльвае ёмкі кавалак вантрабянкі.— Не паверыш, Тацяна,—у мяне часам здараецца такі настрой, што хоць ты плач—хочацца глытнуць мне яе, праклятай, глыток ды і толькі!

— А мне ніколі не хочацца,—выціраючы слёзы, адказвае Тацяна.—Іншы раз, дальбог, пазайздрошчу мужыку якому: вось, думаю, халера — вып'ю і яму лёгка і весела... А каб самой—дык нізавошта!

— Мужыкі—яны не дурні! Яны сабе заўсёды знойдуць уцеху, не тое, што мы, бабы... Ты мне скажы,—раптам ажыўляецца Марфа, — знойдзеш ты хоць аднаго мужыка, няхай сабе самага апошняга зломка на сяле, каб ён застаўся ўдаўцом? Ніколі! Нашто табе далёка хадзіць—вазьмі нашага лапіцкага Хведзьку Вераб'я. Мужык—сама ведаеш, цана—паўкапейкі ў кірмашовы дзень... А вось жа: і года не пабыў адзін пасля жонкі. Пайшла ж Гэлька. І не скажаш, каб кепская ці якая дурная баба была...

— Нешта ж убачыла, нешта ж знайшла яна ў ім,—думаючы пра штосьці сваё, далёкае ад Марфіных слоў, не адразу адазвалася Тацяна, адкусваючы маленькі кавалачак свяжыны.

— Знайшла!—зняважліва адмахнулася Марфа.—Ды я, каб з ім удваіх на ўсе Лапічы засталася—і то б не пайшла за яго!.. Каб жа хоць прыстойны чалавек быў, дык чорт бы ўжо яго бяры з тым мужыком, а то ж яшчэ і бот з левае нагі!—не супакойваючыся, грымела Марфа.

— Каб прыстойны чалавек...—летуценна, услед за ёю паўтарыла Тацяна.—Каб прыстойны чалавек...

...Не раз цікавіліся мужыкі і яе ўдовінай хатай. Ды ўсё не траплялася прыстойнага чалавека. Адзін гарэлку любіў больш, чым жонку, і не хаваўся, пахваляўся нават гэтым. Другі пакінуў дзяцей і жонку і пусціўся ў сабачую шкуру. Трэцяму перашкаджалі яе, Тацяніны, дзеці... А прыстойны чалавек так і не завітаў ні разу. Так і пасівела і пастарэла без пары—ад думак, ад клопату. А каб жа быў добры чалавек у хаце... Каб табе кожную раніцу не ламаць галаву, дзе ўзяць тое сухое палена ў печ, каб было каму страху залатаць... Каб прыйшоў аднойчы ён з работы, стомлены, абняў цябе за плечы, таксама стомленую, і сказаў гэтак добра і клапатліва: «Будуюцца людзі, Таня, давай і мы з табой нешта думаць. Не ўломкі ж якія, дзякуй богу...» І як бы

(Заканчэнне на 4-й стар.).

# ТРЫБУНА ПУБЛІЦЫСТА

Сёлета ў Мінску створана Студыя навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў. Яна выпускае кароткаметражныя нарысы і фільмы, перыядычныя часопісы «Савецкая Беларусь», «Піянер Беларусі», «Мастацтва Беларусі» і «Спартыўны агляд».

Толькі ў гэтым годзе на студыі запланавана звыш сарака кінанарысаў разнастайнай тэматыкі: і пра дзейнасць народных мсціўцаў у гады фашысцкай акупацыі, і пра герояў Брэсцкай крэпасці, і пра легендарную Веру Харужую, і інш. Галоўнае ж, пра што раскажа дакументальнае кіно,— гэта пра барацьбу нашага народа за датэрміновае выкананне сямігодкі, пра людзей першага ў рэспубліцы прадпрыемства камуністычнай працы — Віцебскага дывановага камбіната, будаўнікоў Бярозаўскай ГЭС, шахцёраў Салігорска, рацыяналізатараў і вынаходнікаў рэспублікі і інш.

Нямала дакументальных фільмаў будзе прысвечана і перадавікам сельскай гаспадаркі — лепшым старшыням калгасаў і дырэктарам саўгасаў рэспублікі , маладым кукурузаводам і г. д. Будзе таксама паказана работа лепшага сельскага клуба, народнага тэатра, архітэктура Мінска. Будуць выпушчаны на экран дакументальны нарыс пра народнага паэта Янку Купалу і творчы партрэт народнага пісьменніка Беларусі Кандрата Крапівы.

Разам з тым, усё большае значэнне набываюць кіначасопісы — самы актуальны і аператыўны жанр кінапубліцыстыкі.

Безумоўна, каб выканаць гэты аб'ём работы, новай студыі патрэбен вялікі творчы актыў літаратараў, пісьменнікаў, вучоных, здольных ствараць высокаідэйныя, па-майстэрску зробленыя сцэнарыі дакументальных і навукова-папулярных фільмаў. Студыі патрэбны літаратары-публіцысты, якія могуць напісаць яркі, вобразны дыктарскі тэкст.

Увогуле ж беларускія пісьменнікі—надзвычай рэдкія госці на новай студыі. Яны недаацэньваюць таго, што мовою кінапубліцыстыкі можна вельмі пераканальна расказаць надзвычай шырокай аудыторыі пра дасягненні ў працы перадавых людзей Беларусі. Кінанарыс, кароткаметражны дакументальны фільм — дзейсная форма вобразнай публіцыстыкі.

Некаторыя, відаць, баяцца яшчэ і так званай «кінаспецыфікі». Безумоўна, стварыць сцэнарый дакументальнага кінанарыса ці навукова-папулярнага фільма нялёгка. Як і ўсякі сапраўдны твор, сцэнарый патрабуе майстэрства прафесіянала-літаратара і страснасці публіцыста. Добры фільм можна зрабіць толькі па добраму сцэнарыю. Для гэтага трэба падыходзіць да распрацоўкі тэмы з усёй сур'ёзнасцю, трэба без крыўды выслухаць сяброўскія парады больш вопытных таварышаў.

Вышэй было сказана, што некаторыя пісьменнікі ўжо спрабуюць свае сілы ў кіно. Сцэнарны аддзел будзе імкнуцца пашырыць творчы актыў. Можна назваць беларускіх пісьменнікаў, якія ўжо наладзілі са студыяй творчыя сувязі. П. Пестрак працуе над сцэнарыем пра Веру Харужую, Н. Чарнушэвіч — пра старшыню аднаго з перадавых калгасаў. А. Вялюгін падаў творчую заяўку на стварэнне дакументальнага фільма пра Янку Купалу. А. Макаёнак працуе над кінапартрэтам народнага пісьменніка Кандрата Крапівы. Напісалі сцэнарыі М. Гарулёў і М. Бярозка. М. Калачынскі піша сцэнарый поўнаметражнага дакументальнага фільма пра наш родны край.

Беларускае дакументальнае кіно з кожным годам будзе развівацца, планы выпуску новых кінанарысаў і навукова-папулярных фільмаў стануць большымі. І пажадана, каб аўтары смялей прыходзілі на студыю і дапамагалі ёй. Пакуль іх яшчэ вельмі мала. Таму часта некаторыя рэжысёры самі бяруцца за пяро, спрабуючы папоўніць нястачу сцэнарыстаў.

Безумоўна, нікому нельга забараніць пісаць сцэнарыі, тым больш, калі яны будуць адпавядаць патрабаванням студыі. Аднак трэба рашуча асудзіць спробы некаторых рэжысёраў быць сааўтарамі.

Сцэнарыст павінен быць самастойным творцам, а не ператварацца іншы раз у найміта рэжысёра.

Неабходна звярнуць увагу яшчэ на адну асаблівасць работы літаратараў у дакументальным кіно. Гэта — стварэнне дыктарскага тэксту. На жаль, пісьменнікі і журналісты вельмі неахвотна бяруцца за гэтую працу. Таму многія дыктарскія тэксты нашых часопісаў невыразныя, шаблонныя, надакучаюць павучальнасцю, нецікавымі і зусім лішнімі каментарыямі. У мінулым годзе асобныя пісьменнікі напісалі некалькі добрых дыктарскіх тэкстаў. Вельмі сур'ёзна і ўдумліва падышлі да гэтай працы паэт С. Грахоўскі і празаік А. Міронаў. Зарэкамендавалі сябе свежай і сакавітай мовай дыктарскіх тэкстаў Р. Няхай, М. Ваданосаў, А. Вольскі. Але ў апошні час гэтыя аўтары сталі рэдкімі гасцямі на студыі, і спробы прыцягнуць іх да рэгулярнай працы над дыктарскім тэкстам не мелі поспеху.

Вялікія пераўтварэнні, якія адбыліся і адбываюцца ў нашай краіне ва ўсіх галінах прамысловасці, сельскай гаспадаркі, навукі і культуры, ставяць перад творчымі работнікамі дакументальнага кіно задачу больш яркага і праўдзівага іх увасаблення ў нашых кінанарысах, навукова-папулярных фільмах і часопісах. Вырашыць гэтыя важныя палітычныя задачы новая студыя здолее толькі ў творчым супрацоўніцтве з беларускімі пісьменнікамі і журналістамі.

**Ю. БАГУШЭВІЧ.**



25 тысяч мінчан з'яўляюцца падпісчыкамі на зборы твораў Маркса, Леніна, творы класікаў рускай і сусветнай літаратуры, на энцыклапедыі па розных галінах ведаў. Толькі ў мінулым годзе Мінскі магазін падпісных выданняў выдаў чытачам каля 300 тысяч тамоў кніг.

**На здымку:** ля магазіна падпісных выданняў у дзень падпіскі.

Фота **В. Лупейкі.**
Фотахроніка БЕЛТА.

